20

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 39 (2389) 29 верасня 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 20 рублёў.

ПРЫЯРЫТЭТ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА -- ІДЭАЛ. СПРАВА Ў ТЫМ -- ІМКНУЦЦА ДА ЯГО ЦІ НЕ

## ВІНЦІК У МЕХАНІЗМЕ ДЗЯРЖАВЫ ЦІ АСОБА ?

### БЕЛАРУСЬ -- УДЗЕЛЬНІЦА 122 МІЖНАРОДНЫХ КАНВЕНЦЫЙ

**Беларуская Ліга Правоў Чалавека створана ў канцы 1992 года. Гэта грамадская арганізацыя. У статуце лігі асабліва падкрэслена, што яна не з'яўляецца партыйнай ці ўрадавай арганізацыяй.**

**Правы чалавека -- тэма, якая турбуе кожнага. Наўрад ці можна знайсці на Беларусі чалавека, які б лічыў, што ягоныя правы ніколі не парушаліся. Зразумела, што прыярытэт правоў чалавека -- гэта ідэал. Справа толькі ў тым -- імкнуцца да яго ці не, у тым, як разглядаць пэўнага чалавека -- як вінцік у механізме дзяржавы ці як асобу, сэнс існавання дзяржавы. На Захадзе застаецца шмат праблемаў у рэалізацыі грамадзянамі сваіх правоў. Там гэта прызналі і імкнуцца наблізіцца да таго, каб кожны чалавек меў упэўненасць, што ягоныя правы будуць ахоўвацца дзяржавай. Інакш навошта ёй наогул існаваць? Паліцэйскі ў любой краіне -- гэта сімвал таго, што дзяржава ў кожны момант гатова стаць на абарону чалавека. На Беларусі вобраз міліцыянера мала ў каго выклікае такія асацыяцыі, наадварот: людзі імкнуцца як мага менш сутыкацца з міліцыяй, судом. Яны баяцца, бо апошнія сталі сімвалам не ахоўнікаў, а хутчэй карнікаў. Такі ж імідж мае ў нашых вачах і дзяржава.**

І гэта, мне здаецца, апраўдана нашай гісторыяй. Як вядома, Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека была прынята Генеральнай Асамблеяй ААН 10 снежня 1948 года. Пра ўсеагульныя правы чалавека ў былым СССР шырокія масы ў нас даведаліся праз некалькі дзесяткаў гадоў, аднак наўрад ці што-небудзь змянілася б у краіне, калі б яны ведалі пра іх раней.

**Рэспубліка Беларусь з'яўляецца ўдзельніцай 122 Міжнародных канвенцый. Яна падпісала Статут ААН і Статут Міжнароднага Суда. Яшчэ ў 1968 годзе БССР падпісала Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, факультатыўны пратакол да яго. Сярод падпісаных і ўступіўшых у дзеянне ў Беларусі дакументаў ёсць "Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах", "Канвенцыя супраць катаванняў і іншых відаў жорсткіх, бесчалавечных ці зневажаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання", "Канвенцыя аб правах дзіцяці", "Канвенцыя аб палітычных правах жанчыны".**

Гэтыя дакументы тэарэтычна з'яўляюцца гарантам выканання правоў чалавека ў нашай краіне. Тэорыя ж, на жаль, бывае вельмі далёкай ад практыкі.

( Заканчэнне на 3-й стар.).

ХТО НАВЕДВАЕ СЁННЯ МАСТАЦКІ САЛОН

## ПЕГАС НА ПРАСПЕКЦЕ СКАРЫНЫ

НАВАТ і не ведаю дакладна, колькі год на цэнтральнай вуліцы Мінска існуе Мастацкі салон Саюза мастакоў Беларусі. Але ж, колькі сябе памятаю, заўсёды заходзіла туды паглядзець на карціны, кераміку, дэкаратыўнае шкло і ювелірныя вырабы таленавітых майстроў. Да таго ж, доўгія гады салон быў практычна адзіным месцам у горадзе, дзе можна было за даступную, бадай, кожнаму цану набыць сапраўдны твор мастацтва ці невялікі, але ж прыгожы і з густам зроблены сувенір у падарунак на дзень нараджэння ці да якога свята. Змяніўся час, змяніліся і цэны, зараз той жа маленькі сувенір абыдзецца ў палавіну зарплаты, але ж па-ранейшаму ідуць сюды людзі. Зайшла туды тыдзень таму і я і вельмі здзівілася, убачыўшы на сценах карціны са знаёмымі, але ж непапулярнымі ў наш час персанажамі і сюжэтамі: партрэт генералісімуса Сталіна, Міхаіл Калінін уручае ў Крамлі ордэн Янку Купалу, Сталін і дзеці... Адышоўшы ад купкі ціха і стрымана мітынгаваўшых ля карцін пенсіянераў, я вырашыла пагутарыць з дырэктарам Мастацкага салона.

Ала Салаўёва вельмі добра гарманіруе з установай, якую ўзначальвае з 1971 года. Выдатны густ, элегантнасць і шарм ва ўсім -- ад манеры гаварыць і апранацца да інтэр'ера службовага кабінета, які з'яўляецца своеасаблівым працягам экспазіцыі салона, адкарэкціраванага мастацкімі схільнасцямі яго гаспадыні. Мастацкая кераміка, пра якую Ала Анатольеўна можа гаварыць бясконца, карціны і лёгкія, карункавыя, зграбныя саламяныя кветкі ў прыгожай вазе. Здаецца, ёсць у іх нешта чараўнічае, незвычайнае, ці што.

( Заканчэнне на 6-й стар.).

## МІНУЎШЧЫНА ДЛЯ НАШЧАДКАЎ





**Захаваць і паказаць беларускую вёску канца XIX -- пачатку XX стагоддзяў у яе першародным стане -- адна з асноўных задач Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. Мінаюць гады і дзесяцігоддзі, урастаюць у зямлю даўнейшыя вясковыя хаты, складваюць ветракі свае нямоглыя крылы (махі), развальваюцца цэрквы, разбураюцца вадзяныя млыны...**

**Хутка дваццаць гадоў, як разышліся па ўсёй Беларусі экспедыцыі музея, шукалі, дзе яшчэ ляжалі без ужытку помнікі драўлянага дойлідства, рэчы побыту, прылады працы, абразы. Усё гэта цяпер рупліва збіраецца і перавозіцца пад Мінск, у музей, што размясціўся на 220 гектарах зямлі.**

**Тэрыторыя для музея была выбрана не выпадкова: на месцы археалагічнага помніка гарадзішча на знакамітай рэчцы Менцы, дзе, па сцвярджэнню вучоных-археолагаў, размяшчаўся Мінск.**

**Гэта тэрыторыя захавала ўсе помнікі гісторыі і культуры, экалогіі і прыроды, археалогіі, флору і фауну, таму ідзе размова аб стварэнні запаведніка і наданні музею статуса Дзяржаўнага ландшафтна-этнаграфічнага музея-запаведніка "Менка".**

**Беларусь мае шэсць гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў -- Паўночны, Паазер'е, усходні--Падняпроўе, Цэнтральная Беларусь, паўднёва-заходні -- Панямонне, усходняе і заходняе Палессе.**

**Усе гэтыя рэгіёны будуць прадстаўлены ў музеі лакальнымі асаблівасцямі забудовы вёсак і рэчамі побыту, пэўнымі інтэр'ерамі жытла, гаспадарчых пабудоў, школ, цэркваў, валасной управы.**

**У музеі такога тыпу нельга абысціся без паказу традыцыйнага і гандлёвага мястэчка і унікальных помнікаў, якія будуць размешчаны па перыметру мяжы тэрыторыі. Дзеючых экспазіцыйных сектараў ужо тры, прынамсі, Цэнтральная Беларусь, Паазер'е, Падняпроўе -- тры вёсачкі для наведвання турыстамі і жыхарамі Беларусі.**

**Адметная асаблівасць сядзібнай забудовы вёскі Цэнтральнай Беларусі -- вуліца з аднабаковым размяшчэннем пагонных двароў. Пачынаецца яна з узгорка, на якім узвышаецца Пакроўская царква XYII--XYIII стагоддзяў (асвячоная як уніяцкая) з вёскі Логнавічы Клецкага раёна.**

( Заканчэнне на 8-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ДАРОГА Ў САВЕТ ЕЎРОПЫ



-- Кіраўніцтва Беларусі пераканала нас у тым, што рэспубліка цвёрда стаіць на шляху да пабудовы дзяржавы з сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікай, -- так ацанілі вынік свайго аднадзённага візіту ў Мінск старшыня Камітэта міністраў Савета Еўропы Станіслаў Даскалаў і генеральны сакратар гэтай міжнароднай арганізацыі Даніэль Таршыс.

На прэс-канферэнцыі, што адбылася 21 верасня, члены дэлегацыі выказалі ўпэўненасць, што шлях ад "спецыяльнага запрошанага" да паўнапраўнага члена Савета Еўропы акажацца для нашай рэспублікі нядоўгім.

НА ЗДЫМКУ: з прадстаўнікамі Савета Еўропы сустрэўся Прэзідэнт Беларусі А.ЛУКАШЭНКА.

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

### НАКІРУНАК — НАТО

Міністэрства замежных спраў Беларусі аб'явіла, што разглядае пытанне аб далучэнні да праграмы НАТО "Партнёрства ў імя міру". Чаму Беларусь толькі цяпер выказала жаданне ўдзельнічаць у гэтай праграме? Адказваючы на гэтае пытанне, паверанi ў справах рэспублікі ў Лондане Алег Якавіцкі сказаў:

-- Цяпер у нас абраны прэзідэнт, ёсць новы ўрад, які праводзіць новы курс. Калі раней была арыентіроўка толькі на Усход, то цяпер мы плануем таксама перагледзець нашы сувязі з Захадам, а галоўная магчымасць іх перагледзець -- гэта ўступіць у праграму "Партнёрства ў імя міру".

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### ВІНА ПРЭЗІДЭНТА

"Пакуль нам удаецца пазбягаць праваканцый. Аднак часам у тым, што адбываецца, прыходзіцца вінаваціць і самога сябе, -- сказаў прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ў эксклюзіўным інтэрв'ю карэспандэнту Белінфарма. -- Так, ёсць мая віна ў тым, што ў Мінску гэтай восенню адбыўся "палітычны шабаш", іншых слоў падабраць не магу, -- святкаванне перамогі пад Оршай. У далейшым такога не будзе. Я збіраюся выдаць указ, які вызначае два, так сказаць, гайд-паркі ў Мінску і аналагічныя месцы ў іншых гарадах. Там можна будзе святкаваць ўсё, што хочаш".

ПАДТРЫМКА М. ГРЫБА

### ВЫДАННЕ ГІСТАРЫЧНАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ БУДЗЕ ПРАЦЯГНУТА

Адбылася сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Мечаслава Грыба з галоўным рэдактарам выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя П.Броўкі Барысам Сачанкам. Размова вялася аб вырашэнні праблем выдання шматтомнай "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", у якой вялікі аўтарскі калектыў імкнецца найбольш поўна адлюстраваць шматвяковы шлях беларусаў ад сівой даўніны да сённяшніх дзён.

Мечаслаў Грыб выказаў вялікую зацікаўленасць у працягу выдання гістарычнай энцыклапедыі, першы том якой ужо вынесены на чытацкі суд, і абяцаў падтрымку ў гэтым з боку Вярхоўнага Савета. Вялікая праца вядучых вучоных, разлічаная на ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй свайго народа, свайго краю, стане добрым укладам у агульную скарбніцу беларускай і еўрапейскай культуры.

ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА

### НАВАСЕЛЛЕ Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ

16 верасня адбылося ўрачыстае адкрыццё будынка консульства Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе. У ролі гаспадара гэтага маленькага, але суверэннага беларускага ўладання на тэрыторыі Латвіі выступіў генеральны консул Беларусі ў Даўгаўпілсе Анатоль Жалтоўскі.

Сярод ганаровых гасцей былі супрацоўнікі беларускага пасольства ў Рызе і латвійскага дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Беларусі.

ТРЫВОЖНАЯ СТАТЫСТЫКА

### НУЛЯВЫ ЎЗРОВЕНЬ

Упершыню ў Беларусі натуральны прырост насельніцтва наблізіўся да нулявога ўзроўню, а ў шэрагу абласцей мае адмоўнае значэнне. Беларускія вучоныя ў сувязі з гэтым б'юць трывогу, таму што сёння ў рэспубліцы паміpae больш людзей, чым нараджаецца. У 1985 годзе нараджальнасць на кожную тысячу насельніцтва склала 16,5, у 1992-м -- 12,4, а ў 1993-м -- толькі 11,4. Прагнозы на бягучы год таксама несуцяшальныя.

Прычыны такога трывожнага становішча вучоныя бачаць у нестабільнай эканамічнай сітуацыі, сацыяльных праблемах. У пэўнай меры на зніжэнне нараджальнасці зрабіла ўплыў і чарнобыльская трагедыя. У многіх жанчын паявілася боязь даць жыццё непаўнацэннаму дзіцяці, хоць да гэтага часу нават спецыялісты не могуць сказаць з поўнай упэўненасцю аб непасрэдным уплыве чарнобыльскай катастрофы на генетычны код чалавека. Як адну з прычын вучоныя адзначаюць і прыкметнае пагаршэнне здароўя абсалютна ўсіх слаёў насельніцтва.

Паводле прагнозаў вучоных, калі і далей будзе зніжацца ўзровень жыцця, у 1997 годзе народзіцца толькі 17 850 дзяцей, што ў 8 разоў менш, чым у 1992 годзе. А значыць, штогод насельніцтва Беларусі будзе змяншацца на 20 тысяч чалавек.

НАШЫ ПАРТНЁРЫ

### ГЕРМАНІЯ НА ДРУГІМ МЕСЦЫ

Паводле звестак з Міністэрства знешніх эканамічных сувязей, Германія стала другім найважнейшым знешнеэканамічным партнёрам Беларусі.

Яе ўдзельная вага ў агульным тавараабарачэнні Беларусі дасягнула 8,1 працэнта, а доля экспарту -- 7,9 працэнта. Апярэджвае гэтую дзяржаву -- праўда, значна, -- толькі Расія, на якую ў агульным аб'ёме знешняга гандлю прыпадае 54,2 працэнта прадукцыі, у аб'ёме экспарту -- 45,3 працэнта. У той жа час тэмпы росту долі Расіі ў знешнегандлёвым абарачэнні Беларусі ў 1,6 раза за апошнія 2 з паловай гады ніжэй, чым у Германіі (1,97--2,7 раза).

РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

### БУДЗЕ Ў ГОМЕЛІ КАСЦЁЛ

Падрыхтаваны праект і фундамент касцёла Найсвяцейшай Марыі Панны ў Гомелі. Многія гады ў абласным цэнтры існавала абшчына католікаў. Па іх просьбе Ватыкан накіраваў сюды ксяндза. Сёння прыход налічвае каля 400 чалавек. Праз 2,5 года адну з галоўных вуліц Гомеля ўпрыгожыць касцёл, які даўно чакаюць прыхаджане.

ФЕРМЕРСТВА

### ДВА КРОКІ НАЗАД

Толькі за 1 год на Віцебшчыне 200 тысяч гектараў зямлі перайшло ў рукі новых уласнікаў. Аднак гэты працэс пайшоў цяпер у адваротным напрамку. Фермеры адмаўляюцца ад зямлі. Многія не спяшаюцца выкупляць свае зямельныя ўчасткі ў прыватную ўласнасць. Ільготная цана на зямлю дзейнічае да 1 сакавіка наступнага года, але пакуль толькі 15 тысяч жыхароў вобласці афармілі ва ўласнасць 8,8 тысячы гектараў.

ДРУЖБА ДРУЖБАЙ

### РАСІЙСКІ ТРАКТАР "БЕЛАРУСЬ"

Акцыянернае таварыства "Рыбінскія маторы" сумесна з Ліпецкім трактарным заводам стварыла новы універсальны трактар тыпу "Беларусь". Машыны такога ўзору пастаўляліся ў Расію з Беларусі і Украіны, цяпер расійскія фермеры будуць мець свайго падноўленага "Беларуса".

А на Мінскім трактарным заводзе зноў галоўны канвеер паўзе, як чарапаха: больш чым 30-тысячны калектыў, які быў заняты 4 дні на тыдні, працуе толькі 2 дні. Прычына -- няма з чаго збіраць трактары. У параўнанні з 1993 годам вытворчасць трактароў на МТЗ зменшылася на 40 працэнтаў.

ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ЗОНА

### ШТО СТРАШНЕЙ ЗА РАДЫЯЦЫЮ

Як паведаміў карэспандэнту РІДа міністр па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС І.Кенік, на тэрыторыі Беларусі ў рэгіёнах з узроўнем радыяцыйнага забруджвання звыш 40 кюры на квадратны кіламетр усе людзі адселены. У рэгіёнах з узроўнем ад 15 да 40 кюры на квадратны кіламетр пражываюць яшчэ 126 тысяч чалавек. Працэсу адсялення можа сур'ёзна перашкодзіць нежаданне часткі насельніцтва выязджаць з забруджанай тэрыторыі. Людзі аддаюць перавагу радыяцыі, чым перспектыве застацца без работы і жыць у беднасці.

ВЫКЛЮЧЭННЕ

### ДЛЯ ГАНАРОВАГА ГРАМАДЗЯНІНА

Хаця заканадаўства рэспублікі дазваляе выдзяляць участкі пад будаўніцтва толькі жыхарам Беларусі, Пінскі гарвыканкам зрабіў адно выключэнне.

Тычыцца яно Эдуарда Нордмана, іншаземца, але ганаровага грамадзяніна Пінска. У гады вайны Эдуард Баляслававіч быў адным з арганізатараў партызанскага руху на Палессі. Да таго ж ва ўзведзеным на выдзеленай зямлі будынку гаспадар плануе стварыць музей гісторыі апошняй вайны.

ДОЎГАЖЫХАРЫ



Не толькі даўгалеццем славяцца старажылы вёскі Лаўрышава Навагрудскага раёна. Любоў да роднай зямлі перадаюць яны сваім дзецям, унукам і праўнукам. Сямейныя дынастыі глыбока пусцілі карані на Навагрудчыне.

100 гадоў старажылу вёскі Лаўрышава Фёдару АНТОНЧЫКУ. Сталярных спраў майстрам славіўся ён у акрузе. Уся яго вялікая сям'я жыве і працуе на Навагрудчыне. А ўнук МІКАЛАЙ, якога вы бачыце на здымку побач з дзедам, выкладае беларускую мову ў мясцовай школе.



# "ПРАЗРЫСТАЯ" ГРАНІЦА З ВІЗАВЫМ РЭЖЫМАМ

Дзяржаўная граніца... Яна нечакана з'явілася там, дзе яшчэ нядаўна людзі свабодна перамяшчаліся, не задумваючыся ні пра якія візы і таможні. У прыватнасці, на Гродзеншчыне, дзе цяпер праходзіць дзяржаўная мяжа з Літвой.

Людзі, якія не займаюцца незаконнымі перавозкамі, успрынялі таможню больш ці менш спакойна: няхай сабе правяраюць. Але вось што тычыцца пагранічнага рэжыму - ён да гэтага часу супярэчлівы і ў многім ім незразумелы. Для таго, скажам, каб трапіць да сваяка, які жыве за пяцьдзесят метраў, але ўжо па той бок мяжы, трэба, у лепшым выпадку, разы тры з'ездзіць у Мінск, каб атрымаць візу, папярэдне сабраўшы неабходныя дакументы. Бо калі пры перасячэнні так званай "празрыстай" граніцы візы не акажацца, жыхар Беларусі пры першых кроках па літоўскай зямлі павінен будзе заплаціць штраф 1 100 літаў (250 долараў ЗША). Іншая справа -- жыхары Літвы. Перасякаючы граніцу, яны практычна нічым не рызыкуюць. У лепшым выпадку, пры сустрэчы з пагранічнікамі ім будзе прапанавана пакінуць тэрыторыю Беларусі за 24 гадзіны. Але за гэты час можна не толькі наведаць сваякоў, а і давесці да толку ўсе свае справы. Вось і акупіравалі літоўскі бок усе лясныя сцежкі-дарожкі. Кожны дзень у Астраўцы, Ашмянах можна сустрэць мноства грамадзян Літвы.

Нямала і іншых накладак. Да сёння, напрыклад, не ўзаконены ўрадамі абодвух бакоў пагранпераход Лоша, што ў Астравецкім раёне. Па ўзаемнаму "разуменню" пагранслужбаў тут прапускаюць легкавыя аўтамабілі з пасажырамі, якія маюць адпаведныя візы. Але зноў-такі, якія пераважна ідуць у бок Беларусі. Ды і пост таможні тут толькі адзін -- з нашага боку. З другога -- стаіць ля шлагбаума адзінокі пагранічнік, і лёс любога жыхара Беларусі, які едзе ў Літву, цалкам у яго руках.

Часам не вельмі зразумелыя і лагічныя паводзіны нашых пагранічнікаў. З дапамогай кіраўніцтва астравецкай таможні мы спрабавалі зрабіць здымкі на пагранпераходзе Лоша. Дзяжурны прапаршчык-пагранічнік доўга нешта ўзгадняў па тэлефоне з вышэйшым начальствам. А потым, спасылаючыся на тое, што ў нас няма спецыяльных пашпартоў для паездкі за мяжу (?), нас у памяшканне таможні, дзе мы і прапаноўвалі зрабіць здымкі, проста не пусціў. Пры гэтым назваць сваё прозвішча, як і прозвішча начальніка, з якім вёў перагаворы, прапаршчык адмовіўся, чым здзівіў не толькі нас, але і сваіх калег з Астраўца.

Пасля гэтага казусу мы ехалі ўздоўж "празрыстай" граніцы, бачачы, як бесперашкодна ў абодва бакі яе рушаць людзі, ездзяць машыны. Так і не сустрэўшы ніводнага пагранічнага нарада, мы былі здзіўлены: які ж важны сакрэт хацеў схаваць ад нас той прапаршчык на тэрыторыі ў некалькі соцень метраў, загароджанай сеткай, дзе, акрамя яго невялікага КПП ды будынка таможні, больш нічога няма?

Зрэшты, гэта толькі нязначны, хоць і крыўдны эпізод. У цэлым жа на плячах таможнікаў вялікі груз работы. А калі ўлічыць іх сацыяльную неабароненасць, пастаянныя пагрозы, запалохванні, спробы подкупу -- не пазайздросціш. Ва ўсіх на памяці і нядаўняе забойства бандытамі іх калегі Анатоля Букеля.

Крыху больш чым за два гады работы інспектары астравецкай таможні затрымалі на трох сваіх пунктах -- Котлаўцы, Лошы, станцыі Гудагай -- на мільярды рублёў незаконна перавозімых грузаў, многа каштоўных і рэдказямельных металаў, твораў мастацтва, цэлы арсенал усялякай зброі, наркотыкаў.

"Празрыстая" граніца з візавым рэжымам -- з'ява унікальная. Як матылі на святло, злятаюцца сюды кантрабандысты ўсіх масцей. І таму трымаць "граніцу на замку" тут вельмі няпроста.

**Раман КАБЯК.**

**НА ЗДЫМКАХ: работнікі таможні станцыі Гудагай (злева направа) Юрый БУКЕЛЬ, Віктар БАРОЎСКІ, Вячаслаў КУЛЕШ і Аляксандр МІЦКЕВІЧ з чарговым "уловам" -- зліткамі каштоўных металаў, якія былі знойдзены ў адным з цягнікоў, што ішоў у Прыбалтыку; жыхары Шры-Ланкі, затрыманыя пры незаконным перасячэнні граніцы. Такія групы трапляюць у рукі пагранічнікаў амаль штодзённа.**

**Фота аўтара.**



# ВІНЦІК У МЕХАНІЗМЕ ДЗЯРЖАВЫ ЦІ АСОБА?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Галоўнай задачай лігі, як і праваахоўнікаў усяго свету, з'яўляецца дзейнасць па выяўленню і абнародаванню фактаў парушэння правоў чалавека з боку дзяржавы незалежна ад яе палітычнага рэжыму. Сапраўды, любая краіна з яе інстытутамі (арміяй, паліцыяй, турмамі) значна мацнейшая за любога з нас. І, як правіла, дзеля сваіх інтарэсаў яна з лёгкасцю ахвяруе чалавечым жыццём, парушае іншыя яго правы. Зыходзячы з гэтага і наладжвае сваю працу Беларуская Ліга Правоў Чалавека (БЛПЧ).

## ЯЎГЕН НОВІКАЎ: "Я ДЭПУТАТ АД АПАЗІЦЫІ Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ"

Узначальвае БЛПЧ народны дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Яўген Новікаў. Яму 38 гадоў. Я.Новікаў працуе ў 4-й клінічнай бальніцы.Ён спецыяліст у галіне хірургіі сэрца. У 1990 годзе Яўген Новікаў скончыў яшчэ і юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта па спецыялізацыі "дзяржаўнае права".

У 1990 годзе калектыў 4-й клінічнай бальніцы вылучыў кандыдатуру Яўгена Новікава ў народныя дэпутаты вышэйшага органа дзяржаўнай улады.

Яўген Новікаў лічыў і лічыць сябе дэпутатам ад апазіцыі. Ён упэўнены, што апазіцыя ў Вярхоўным Савеце неаднародная і складаецца не толькі з дэпутатаў ад Беларускага народнага фронта. Сапраўды, адасобленасць і раз'яднанасць дэмакратаў у парламенце стварае добрыя ўмовы для процілеглых ім сілаў.

У кастрычніку 1992 года Яўген Новікаў быў абраны старшынёй БЛПЧ. У маі 1993 выйшаў у свет першы нумар газеты "Права человека". Фінансуе выданне БЛПЧ. Рэдактар газеты -- Яўген Новікаў, які разглядае газету як сродак уздзеяння на развіццё правасвядомасці жыхароў Беларусі, як магчымасць на канкрэтных прыкладах вучыць людзей абараняць свае правы і свабоды.

Летась БЛПЧ заснавала дзве самастойныя юрыдычныя адзінкі -- Беларускую асацыяцыю свабодных сродкаў масавай інфармацыі і кансультацыйнае юрыдычнае прадпрыемства "Прэзумпцыя". Гэтае прадпрыемства складаецца з некалькіх юрыстаў, якія вядуць прыём грамадзян па канкрэтных справах і выступаюць у якасці іх прадстаўнікоў у судах, пракуратуры, выканкомах.

Яўген Новікаў згаджаецца, што ў свеце няма ніводнай краіны, дзе б не парушаліся правы чалавека. Гэта супярэчыла б сутнасці любой дзяржаўнай улады. Аднак ён прызнае і наступнае: "Узроўні парушэння правоў чалавека розныя: у ЗША, Канадзе, Швейцарыі -- адзін узровень, у Кітаі, Анголе, Паўночнай Карэі -- іншы".

## ДЗЯРЖАВА НЕ ПАВІННА БЫЦЬ ПАДОБНАЙ НА ЎЗБРОЕНУЮ БАНДУ

Думаецца, чытачам "Голасу Радзімы" будзе цікавы погляд Яўгена Новікава на праблему правоў чалавека і на факты іх парушэння ў Беларусі. Тым жа, хто зацікавіцца гэтай праблемай глыбей, раім звярнуцца да яго кнігі "Евгений Новиков о свободе и пока на свободе", што выйшла сёлета ў Мінску.

-- Яўген Віктаравіч, якія правы чалавека парушаюцца ў Беларусі часцей за ўсё?

-- Трагедыя Беларусі ў тым, што тут поўнасцю знішчаны структуры грамадзянскага грамадства. Жыхары Беларусі плацяць сёння за сваё маўчанне і цярпенне на працягу апошніх двух стагоддзяў. На Беларусі парушэнні правоў чалавека адбываюцца практычна па ўсяму спектру міжнародных стандартаў, якія прымяняюцца да правоў і свабод асобаў.

БЛПЧ, газета "Права человека" атрымліваюць шмат лістоў ад людзей -- ахвяраў беззаконня. У Беларусі парушаецца права на свабоду думкі, на асабісты погляд, свабоду слова. Многія журналісты сутыкнуліся з гэтым на ўласным вопыце. Вядома, што сродкі масавай інфармацыі сёння знаходзяцца пад кантролем урада ці Вярхоўнага Савета, якія фінансуюць іх дзейнасць. Зразумела, гэта адбываецца за кошт сродкаў падаткаплацельшчыкаў, для інфармавання якіх і існуюць СМІ. Аднак у людзей ніхто не пытаўся, калі з працы звальнялі журналістаў праграмы навін "Ніка" Марыну Бабкіну і Святлану Іванову, калі ліквідавалі радыёпраграму "Беларуская маладзёжная".

Я таксама сутыкаюся з цяжкасцямі свабодна выказвацца. За гады працы дэпутатам Вярхоўнага Савета ў апазіцыі да старых дзяржаўных структур я зразумеў, што адкрыта казаць тое, што я лічу неабходным, немагчыма. Менавіта таму з мая 1993 года штотыдзень я выступаю ў праваахоўнай праграме рускай рэдакцыі радыё "Свабода" "На мяжы жыцця".

-- Ці вядомыя вам факты парушэнняў у Беларусі правоў чалавека на справядлівы суд, на судовую абарону?

-- Парушэнні правоў чалавека на справядлівы суд часцей за ўсё звязаны з пазбаўленнем судовай абароны. Іх можна падзяліць на некалькі тыпаў. Першы. Блакіраванне абароны пачынаецца ўжо на стадыі папярэдняга следства. Другі. Максімальнае зацягванне судовага разбору. Па закону справа павінна быць разгледжана на працягу 14 сутак у судовым пасяджэнні. На пачатку бягучага года тры месяцы чакаў судовага разгляду сваёй справы ў Савецкім народным судзе г. Мінска грамадзянін Вараб'ёў, са жніўня 1993 года не разглядалася справа грамадзяніна Нестара ў Цэнтральным народным судзе сталіцы. Увесь гэты час людзі знаходзіліся ў камерах следчага ізалятара. Калі дзяржава бярэ на сябе функцыі правасуддзя, гэта не значыць, што грамадзяне павінны пакутаваць ад яе няздольнасці своечасова выконваць свае абавязкі перад грамадствам. Калі суды перагружаны справамі і не хапае суддзяў, трэба шукаць выйсце, каб не парушаць правы чалавека -- часцей практыкаваць падпіску аб нявыездзе ці залог замест арышту. Трэці сродак пазбаўлення грамадзян судовай абароны -- гэта адмаўленне ім у хадайніцтвах. Так, суддзя Ждановіч у Цэнтральным судзе Мінска два разы адмаўляў пісьменніцы Алексіевіч у правядзенні незалежнай літаратуразнаўчай экспертызы кнігі "Цинковые мальчики". Гэтая экспертыза была галоўным пунктам абароны С.Алексіевіч.

-- Я ведаю што Святлане Алексіевіч быў прад'яўлены грамадзянскі іск маці загінуўшага воіна-афганца Галаўнёвай і былым воінам-інтэрнацыяналістам Тарасам Кецмурам. Пра існаванне апошняга іска С.Алексіевіч даведалася толькі ў зале суда. Раскажыце больш падрабязна пра гэтую справу, калі ласка.

-- Я лічу, што суд над Святланай Алексіевіч быў судом над яе кнігай, над яе поглядамі. Як вядома, кніга С.Алексіевіч прысвечана вайне ў Афганістане і напісана па ўспамінах мужчын і жанчын, што былі на той вайне. С.Алексіевіч абвінавачвалі ў тым, што яна зняважыла годнасць і гонар істцоў тым, што не перадала літаральна іх словы ў кнізе. Менавіта для таго, каб вызначыць, ці абавязана яна была гэта рабіць, адвакат пісьменніцы і прасіў наладзіць незалежную экспертызу. Суддзя гэтага не зрабіў. І Святлана Алексіевіч была прызнана вінаватай і павінна папрасіць прабачэння за сваю кнігу "Цинковые мальчики". Аднак экспертыза ўсё ж такі адбылася. Па ініцыятыве віцэ-прэзідэнта Беларускага пэн-цэнтра Карласа Шэрмана яе правёў дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі Віктар Каваленка. Калі коратка, галоўная выснова, якая робіцца незалежнай экспертызай, такая: у дакументальнай аповесці аўтар не быў абавязаны і не мог перадаць словы сваіх герояў літаральна.

Святлана Алексіевіч назвала той суд палітычным. І я згодзен з ёю. Пісьменніцу судзілі за яе перакананні.

-- Яўген Віктаравіч, на радыё "Свабода" вы неаднойчы рабілі заяву, што ў турмах Беларусі прымяняюцца катаванні...

-- На адрас БЛПЧ прыходзіць шмат лістоў ад зняволеных, якія сталі ахвярамі катаванняў. За ўвесь 1993 год ад афіцыйных улад не прыйшло ніводнага абвяржэння. І сёння ў турмах б'юць людзей, ім не аказваюць медыцынскую дапамогу, з іх здзекуюцца. Дзяржава зажыва забівае зняволеных. І гэта тая ж дзяржава, якая падпісала Канвенцыю ААН супраць катаванняў.

-- Аднак не лепш яна ставіцца і да тых, хто "пакуль на свабодзе", як вы пішаце ў сваёй кнізе...

-- Гэта так. Аднак дзяржава, асновай якой не з'яўляецца маральны ідэал, нічым не адрозніваецца ад узброенай банды, што захапіла пэўную тэрыторыю. Калі яна дапускае здзек з людзей -- злачынцы яны ці не, -- яна сама становіцца злачынцай і стаіць з імі на адным узроўні.

**Алена СПАСЮК.**

Гэтыя чатыры сшыткі, пажоўклыя ад часу, праляжалі больш за трыццаць гадоў у асабістым архіве былога рэдактара "Голасу Радзімы" Леаніда Прокшы. Нядаўна Л. Прокша перадаў іх у рэдакцыю "Голасу Радзімы" з прапановай апублікаваць і з просьбай ганарар за публікацыю накіраваць аднаму з родзічаў аўтара рукапісу А. Сокал-Кутылоўскага. Леанід Януар'евіч сустракаўся з удзельнікам Слуцкага паўстання, калі той жыў у Ганцавічах, і папрасіў Антона Сокал-Кутылоўскага напісаць успаміны "пра той час і пра сябе".

"Праз некаторы час я атрымаў аж чатыры сшыткі яго рукапісаў, -- напісаў у прадмове да ўспамінаў А. Сокал-Кутылоўскага Л. Прокша. -- А ва ўступе да рукапісу аўтар звяртаўся да мяне:

"Паважаны т. Рэдактар!

Цяпер я бачу, што маё пісанне для вашай газеты не падыйдзе.

Прашу прабачыць за турботы, знішчайце без жалю. А. С.-Кутылоўскі".

Урыўкі з рукапісу, што датычаць "слуцкага чыну", былі надрукаваны на старонках "Голасу Радзімы", а потым выдадзены асобнай брашурай у "Бібліятэчцы газеты "Голас Радзімы".

Заставалася другая частка ўспамінаў Сокал-Кутылоўскага -- афіцэра сувязі на фронце першай сусветнай вайны. Яны для мяне, афіцэра-франтавіка другой сусветнай вайны, -- больш блізкія і зразумелыя. Гэта (я так назваў бы іх) цікавыя і хвалюючыя біяграфічныя навелы. Яны гавораць аб сапраўдным, чалавечым чыне Антона Андрэевіча Сокал-Кутылоўскага".

Вядома ж, у той час гэтая частка ўспамінаў не магла быць надрукавана, бо непатрэбна была нашай савецкай прапагандзе: з тых навел-успамінаў паўстае вобраз іншага А. Сокал-Кутылоўскага.

**Антон СОКАЛ - КУТЫЛОЎСКІ**

# МАЕ ЎСПАМІНЫ

## СУСТРЭЧА З ШАЛЯПІНЫМ

У 1912 годзе ў часе зімовых, ці, як тады называлі, калядных, канікулаў у Пецярбургу адбыўся першы ўсерасійскі з'езд народнай асветы. Цэлая група студэнтаў і я ў тым ліку ўцерліся праваднікамі. У сталіцу з'ехаліся з усіх канцоў расійскае дзяржавы да сямі тысяч вучыцеляў і вучыцельніц. Трэба было іх спатыкаць на чыгуначных станцыях і развозіць па інтэрнатах, а таксама паказваць будынкі, дзе адбываліся пасяджэнні з'езда. Развозіць па тэатрах, музеях і іншых цікавых мясцінах сталіцы.

Усе настаўнікі і настаўніцы добра ведалі, што Шаляпін -- першы саліст імператарскай Марыінскай оперы, што гэта найвялікшы артыст і спявак, і вельмі хацелі яго пабачыць і паслухаць яго спеў. А Шаляпін тады выступаў у Марыінскім тэатры. Аднак трапіць туды было нельга. Усе білеты на спектаклі з удзелам Шаляпіна былі прададзены за два тыдні наперад, а ў перакупшчыкаў, хоць і можна было дастаць білет, але не танней, як дваццаць пяць рублёў, амаль месячны заробак настаўніка пачатковай школы. Як жа быць? Парашылі паслаць дэлегацыю да Шаляпіна і прасіць яго выступіць у канцэрце перад працаўнікамі народнай асветы.

Настаўнікаў папярэджвалі, што Шаляпін не філантроп і ніколі не выступае бясплатна. Аднак, як кажуць, "попытка не пытка". Можна паспрабаваць звярнуцца да вялікага спевака.

Выбралі дэлегацыю і а гадзіне адзінаццатай 28 снежня 1912 года паслалі на кватэру Шаляпіна. Вялікі артыст ветліва сустрэў дэлегацыю, гутарыў, жартаваў і згадзіўся выступіць у канцэрце а гадзіне другой таго ж дня ў памяшканні тэатра "Зон".

У Пецярбургу тэатр "Зон" змяшчаў звыш шасці тысяч глядачоў. Аднак настаўнікаў і настаўніц уціснулася значна болей, чым мог прыняць тэатр. Я быў удзельнікам: стаяў ля дзвярэй і прапускаў у тэатр.

Напружанасць назіралася незвычайная. Трэба было бачыць, як хваляваліся, асабліва жанчыны. Жарты -- яны зараз убачаць і пачуюць спеў самога Шаляпіна.

І вось за дзве мінуты да дзвюх гадзін уваходзіць піяніст і займае месца ля раяля, а пунктуальна а гадзіне другой з бакавой дзверцы выйшаў на сцэну Шаляпін. І толькі ён паказаўся, як тысячы кветак паляцелі на сцэну. Шаляпін нагінаецца, падымае некалькі кветак, нюхае, раскланьваецца, лёгенька ўсміхаецца.

Калі бура авацыяў сціхла, Шаляпін перапрасіў, што ён зможа праспяваць усяго тры песні, бо ўвечары таго ж дня мае выступаць у Марыінскім тэатры ў оперы "Барыс Гадуноў".

Праспяваў Шаляпін наступныя песні: "Блыха", "Дубінушка" і "У Францыю два грэнадзёры...". Затым яшчэ раз перапрасіў за такое кароткае выступленне і пад буру авацыяў скрыўся за дзвярыма.

Так дэлегатам народнай асветы ўдалося ўбачыць і паслухаць спеў Шаляпіна.

Не дарма дабіваліся пабываць на спектаклях, дзе ўдзельнічаў Шаляпін. Мушу сказаць: ён сапраўды быў выдатнейшым не толькі спеваком, але і артыстам. Усё гаварыла на яго карысць: і высокі рост, магутныя плечы, адкрыты твар, выпраўка, ну, зразумела, і голас, якога не ведала тэатральная сцэна раней.

А колькі было размоў сярод дэлегатаў народнай асветы пасля канцэрта Шаляпіна!


Паважаны
т. Рэдактар.
Цяпер я бачу, што
мае пісанне для вашай
газэты не падыйдзе.
Прашу прабачыць
за турботы. Знішчай-
це без жалю.
З пашанай
А. С-Кут

---

БАРЫС КІТ -- ГОСЦЬ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"

## НАЙВЯЛІКШАЕ ЗДАРЭННЕ XX СТАГОДДЗЯ



Днямі госцем нашай рэдакцыі быў славуты Барыс Кіт, пра якога ўсе мы столькі чулі, чыталі і нават пісалі, але многія асабіста не былі з ім знаёмы. Сапраўды, абаянне гэтага чалавека бязмежнае. Ён бадзёры, жыццярадасны і дасціпны, цікавы субяседнік. Бываюць жа такія людзі: і ўпершыню сустракаешся з імі, як з добрымі знаёмымі. Вельмі цёпла вітаў супрацоўнікаў рэдакцыі Барыс Уладзіміравіч, радаваўся асабістаму знаёмству з журналістамі, артыкулы якіх чытае ў "Голасе Радзімы".

-- Ваша газета, -- сказаў ён рэдактару, -- асалода на схіле дзён майго жыцця.

Газета падабаецца Б.Кіту тым, што з яе ён даведваецца пра ўсе падзеі, якія адбываюцца на яго роднай Беларусі. Ён высока цэніць "Голас Радзімы" за тое, что яна служыць справе беларускага адраджэння.

Наш зямляк Барыс Кіт, вучоны сусветнага маштабу ў галіне астранаўтыкі, прыехаў у Мінск напярэдадні першай Генеральнай асамблеі Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, на якую быў запрошаны прэзідэнтам акадэміі Яўгенам Шыраевым у якасці ганаровага госця.

Можна толькі здагадвацца, як цяжка чалавеку ў 84 гады збірацца ў далёкую дарогу, але гэта запрашэнне так узрушыла Барыса Кіта, што ён прыехаў у Мінск, не палічыўшыся ні з якімі цяжкасцямі. Імя вучонага Барыса Кіта добра вядома і прызнана ва ўсім свеце, і толькі адна краіна, найбольш дарагая яго сэрцу Беларусь, доўгія гады адмаўлялася прызнаць заслугі і працу аднаго са сваіх самых таленавітых сыноў. Цяпер імя вучонага становіцца ўсё шырэй вядомым і на яго Радзіме. Запрашэнне на Міжнародную акадэмію -- таксама сведчанне прызнання вялікіх навуковых здабыткаў Барыса Кіта.

Сярод нас Барыс Уладзіміравіч быў нязмушаным і радасным. Шчаслівы ад таго, што знаходзіцца на сваёй зямлі, куды заўсёды рваўся сэрцам і ў думках.

Гаворка наша была доўгай і цікавай, тычыла самых розных аспектаў нашага жыцця. Барыс Кіт лічыць найвялікшым здарэннем XX стагоддзя набыццё Беларуссю сваёй незалежнасці. Нягледзячы на бядотны сённяшні стан нашай дзяржавы, вялікі матэматык, абапіраючыся на вечныя законы сваёй любімай навукі, лічыць, што ў Беларусі светлая будучыня і што яна дасягне росквіту і будзе прызнана ва ўсім свеце.

Пасля ўдзелу ў рабоце Міжнароднай акадэміі Барыс Кіт наведае Навагрудак і Гродна, дзе яго таксама чакаюць з нецярплівасцю.

**Д.ЧАРКАСАВА.**

---

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

## НІЧОГА Ў ВАС НЕ ЗМЯНІЛАСЯ

Вельмі паважаны рэдактар!

Не магу знайсці слоў, каб падзякаваць вам за прысланне мне "Голасу Радзімы". Праз вашу газету я маю вялікую лучнасць з Бацькаўшчынай. Атрымліваю лісты з Беларусі ад сяброў і знаёмых, якія таксама інфармуюць мяне аб падзеях на Бацькаўшчыне. Я дзякую Вам за тое, што змяшчаеце тое-сёе з маёй пісаніны. Мае сябры, якія яшчэ засталіся ў жывых, у лістах да мяне дзякуюць за кожны артыкул, змешчаны ў вашай газеце, і памятаюць, калі я ім гаварыў на зборках: "Чытайце кожную беларускую газету, якая выходзіць на Бацькаўшчыне, пераважна "Голас Радзімы".

Мне сорамна, бо я не магу заплаціць вам за газеты, якія атрымоўваю. Але Беларусь не мае грашовага абмену з Ангельскім банкам, як, напрыклад, Польшча.

А цяпер хацеў бы адказаць на пытанні, пастаўленыя Янам Гілуцёвічам у фотарэпартажы аб святкаванні 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі: "Куды мы ідзем? Да чаго крочым?" ("Г.Р.", N 28, 14-га ліпеня 1994 г.).

Мы ідзем дарогаю ў федэрацыю з Расіяй, а крочым дзвюма сцежкамі на выбар: адна ў аўтаномію, а другая ў калонію. Беларускі народ ёсць амаль зрусіфікаваным і зкамунізаваным народам сталінска-камуністычнай дыктатурай. Незалежнасць яму непатрэбная.

"Чартоўская імперыя", якую будавалі бальшавікі праз 75 год, развалілася. Камуністы разбегліся са страху, як зайцы на полі, каб не судзілі іх як народных злачынцаў за ліквідацыю беларускай нацыі, мовы, традыцыяў, звычаяў і ўсяго таго, што беларускае. Ужо прайшло амаль чатыры гады, як аб'явілі беларускія камуністы незалежную і суверэнную Рэспубліку Беларусь. Вярнулі ёй гістарычную сімволіку -- бел-чырвона-белы сцяг з гербам "Пагоня", а свае чырвоныя, з серпам і молатам, закапалі ў зямлю. Здавалася, што камуністы, надзеўшы шапкі дэмакратаў, будуць адбудоўваць эканоміку Рэспублікі Беларусь шчыра і сумленна і будуць весці беларускі народ да шчасця і дабрабыту. Так не сталася! Пачалі рабіць насмешкі з беларускай мовы, якую самі ж пастанавілі, каб была дзяржаўнай. На Беларусі за чатыры гады нічога не змянілася ад сельсавета да гарсавета. Беларуская мова пасунулася крок наперад, а два назад. За гэта адказныя беларускія дзеячы. Цяпер яны крычаць: "Беларусь не можа жыць без Расіі. Трэба брацца і аднаўляць Савецкі Саюз!" Галодны народ ізноў верыць фальшывай прапагандзе замаскаваных камуністаў, не ведаючы, што сённяшні камунізм не розніцца ад старога.

**С.ШЧЭРБА.**

Англія.

**169**

**МЕТАЛААПРАЦОЎКА І МАШЫНАБУДАВАННЕ.** Металаапрацоўчая прамысловасць карысталася прывазной сыравінай, але попыт на яе прадукцыю быў такі вялікі, што выдаткі пакрываліся спаўна. Тут меліся даволі буйныя драцяна-цвіковыя заводы ў Барані каля Воршы і ў вёсцы Салтанова Рэчыцкага павета. На аснове саматужных майстэрняў закладвалася прамысловае і сельскагаспадарчае машынабудаванне ў Мінску, Вільні, Віцебску, Гомелі, Бабруйску, Гародні, Горы-Горках, Ракаве. У Пінску працаваў суднабудаўнічы завод. У пачатку XX стагоддзя вырабы машынабудавання Беларусі пачалі вывозіцца нават за яе межы. Тут яны выпрацоўваліся таннымі рабочымі рукамі і былі дзешавейшымі за расійскія і замежныя.

**ВЫТВОРЧАСЦЬ ПОБЫТАВЫХ ТАВАРАЎ.** Мясцовыя прадпрымальнікі ставілі ў гэты час на шырокі канвеер вытворчасць шпалераў, абутку, парфюмерыі, грабянцоў (Мінск), мэблі, люстэрак, алоўкаў, панчох, напільнікаў (Вільня), акуляраў, толі (Віцебск), цэменту (Краснае Сяло Ваўкавыскага павета), электралямп (мястэчка Альбярцін ля Слоніма) і іншых тавараў, на якія прад'яўляла попыт падлаўшае пад цывілізацыю грамадства. Але хуткае пашырэнне сферы паслуг пакідала месца і для дробнай вытворчасці.

**РАМЯСТВО.** Да рамеснікаў звярталіся не толькі гараджане, але і вяскоўцы. Рамесныя вырабы часта паспяхова спаборнічалі з фабрычнымі, бо былі больш таннымі. У 1913 годзе саматужная вытворчасць Беларусі давала больш паловы валавой прамысловай прадукцыі, у той

**170**

час як па ўсёй Расіі -- менш 1/3. Нягледзячы на поспехі індустрыялізацыі, наш край заставаўся аграрным кутком імперыі. Напярэдадні першай сусветнай вайны на долю прамысловасці прыходзілася каля 20 працэнтаў нацыянальнага даходу.

**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АДЧУЖАНАСЦЬ ПРАМЫСЛОВАСЦІ.** Большасць прамысловых прадпрыемстваў знаходзілася ў руках яўрэяў, спаланізаваных паноў і замежных прадпрымальнікаў, якія былі далёкімі ад праблем нашага нацыянальнага адраджэння. А таму і індустрыялізацыя, што праводзілася чужымі рукамі, давала беларусам толькі заробкі ды цывілізаваны камфорт -- і нічога блізкага да нацыянальнай духоўнасці. Беларускае адраджэнне за кошт прамысловых прыбыткаў фінансавацца не магло.

## 21.5. Развіццё гарадскога жыцця

**АСАБЛІВАСЦІ ГАРАДСКОЙ ЭКАНОМІКІ.** Прамысловасць спрыяла росту гарадоў. Значнымі прамысловымі цэнтрамі, акрамя Беластока, станавіліся Вільня, Мінск, Віцебск, Гродна, Пінск, Гомель, Брэст, Бабруйск, Барысаў. Аднак у Беларусі фабрычна-заводская вытворчасць размяшчалася пераважна ў сельскай мясцовасці -- бліжэй да крыніц сыравіны, панскіх капіталаў і да танных сялянскіх рук. А гарады заставаліся пераважна гандлёва-адміністрацыйнымі, чым прамысловымі асяродкамі. Яны ўражвалі шматлікасцю лавак і крамак. Ледзь не на кожным кроку можна было

**171**

купіць селядцоў, тытуню, хустку, кавалак паркалю. Многія буйныя магазіны належалі гандлёвым дамам. Агульнарасійскія манапалістычныя аб'яднанні кантралявалі тут продаж металаў і нафтапрадуктаў ("Прадамет", "Бр. Нобель", "Мазут"), кравецкіх машын ("Кампанія Зінгер"), гумавых вырабаў ("Трохкутнік") і іншае. Вальготна адчувалі сябе ліхвяры. Спакуслівае гарадское жыццё патрабавала шмат грошай. Амаль усе крэдытныя ўстановы канцэнтраваліся ў гарадах, што дазваляла ім кантраляваць эканоміку беларускага краю.

**ПАМЕРЫ УРБАНІЗАЦЫІ.** Працэнт насельніцтва, што пражывала ў гарадах і мястэчках Беларусі, узрос з 14 у 1897 годзе да 16 у 1913-м. Доля адрынутых ад земляробчай працы людзей тут была вышэйшай, чым у Расіі ў цэлым. Але гэта тлумачыцца не эканамічнымі прычынамі, а знаходжаннем Беларусі ў межах аселасці яўрэяў, якім, як вядома, не дазвалялася сяліцца па-за гарадскімі паселішчамі. Для параўнання згадаем, што ў Вялікабрытаніі ў той час у гарадах пражывала больш паловы насельніцтва.

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ САСТАЎ ГАРАДЖАН.** Скучанасць яўрэяў у гарадах і мястэчках стрымлівала прыток туды збяднелага мясцовага сялянства. У канцы XIX -- пачатку XX стагоддзяў беларусы складалі ўсяго каля 17 працэнтаў, рускія ж -- 18, а яўрэі -- 54 працэнты. Ураджэнцы Расіі запаўнялі адміністрацыю, наплывалі сюды ў складзе імперскай арміі. Яўрэйскія прадпрымальнікі кантралявалі гандлёва-прамысловую дзейнасць, а яўрэйскія працоўныя

**172**

мелі, мажа, самае пакутлівае жыццё з усіх гараджан: цеснага ў кватэрах, неабмежаваны рабочы дзень у рамесных майстэрнях, капеечны гандаль пад адкрытым небам, беспрацоўе.

**ГОРАД У ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСАЎ.** Толькі ў перыяд эканамічнага ўздыму 1909--1913 гадоў у сялянскай моладзі з'явілася магчымасць хутчэй адшукаць месца на прамысловых прадпрыемствах, дзе звычайна знаходзілася чорная і нізкааплатная работа. Але з гэтай пары шлях да паўнапраўнага гараджаніна толькі пачынаўся. Кватэрная плата ў вялікім горадзе была не па кішэні вясковаму хлопцу, які толькі-толькі ўладкаваўся на фабрыку вучнем ці чорнарабочым. Прытулішчам нярэдка служылі гарадскія скверы, закінутыя могілкі, а зімой -- начлежныя дамы, брудныя харчэўні, заезныя двары. Калі асабліва шчасціла, то знаходзіўся адносна недарагі "кут" у падвалах ці ўбогіх хацінах. Памяшканні ж для рабочых мелі толькі асобныя прадпрыемствы. Праўда, набыўшы прафесію, можна было ўстаць на ногі, завесці сям'ю і нават пабудаваць дзе-небудзь на ўскраіне ўласны драўляны дамок. Трапіўшы ў горан гарадскога жыцця, вяскоўцы хутка засвойвалі светапогляд люмпенаў і русіфікаваліся. Больш шанцавала прыгарадным сялянам. Блізкасць гарадскога рынку стымулявала агародніцтва, садоўніцтва, жывёлагадоўлю і ператварала земляробаў у сапраўдных прадпрымальнікаў-гандляроў. Тым жа займаліся і беларускія мяшчане, якіх асабліва многа захавалася ў гарадах усходняй Беларусі. Выдатнымі агароднікамі былі і беларускія татары.

*Захар ШЫБЕКА*

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ**

**(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)**

**173**

Гарадскія паселішчы прыцягвалі да сябе не толькі магчымасцю атрымаць заробак, нешта прадаць-купіць ці разбагацець. Тут набываўся яшчэ адзін і можа самы надзейны капітал -- гэта веды. Практычна ўсе больш-менш значныя навучальныя ўстановы канцэнтраваліся ў гарадскіх цэнтрах. Настаўніцкія семінарыі і інстытуты падрыхтавалі да першай сусветнай вайны цэлую армію вясковай інтэлігенцыі. У гарадскіх паселішчах адукаваныя беларусы працавалі ў якасці ўрачоў, фабрычна-заводскіх, чыгуначных, паштова-тэлеграфных і дзяржаўных службоўцаў. Многія з іх потым сталі вядомымі нацыянальнымі дзеячамі.

**МУНІЦЫПАЛІТЭТ.** Гарадскімі справамі кіравала дума. Яе выбіралі са свайго складу буйныя ўладальнікі нерухомай маёмасці за выключэннем яўрэяў -- не больш 1 працэнта жыхароў горада. Гарадская дума стварала свой выканаўчы орган -- гарадскую ўправу на чале з гарадскім галавой. Кіруючыя пасады ў ёй звычайна даставаліся спаланізаваным панам, якія мелі ў гарадах камяніцы. Губернатар мог спыніць выкананне любога рашэння гарадскіх улад. З гараджан збіраліся падаткі на ўтрыманне ўрадавых устаноў, войска, паліцыі, гарадскога кіравання, на пагашэнне муніцыпальных пазык. А калі што заставалася ў гарадскіх касах, дык выкарыстоўвалася на добраўпарадкаванне вуліц, народную адукацыю, медыцынскую дапамогу, дабрачыннасць, утрыманне гарадской гаспадаркі .

**ВОНКАВЫ ВЫГЛЯД.** У пачатку XX стагоддзя ў гарадах ішло інтэнсіўнае будаўніцтва. Багацеі

**174**

ахвотна ўкладвалі капіталы ва ўзвядзенне даходных трох-, чатырохпавярховых дамоў, прызначаных для здачы ў наём кватарантам і гандлярам. Уздоўж чыгунак вялося прамысловае будаўніцтва. Уздымаліся цэрквы, касцёлы, сінагогі і радзей -- школы. На ўскраінах старыя халупы замяняліся звонкімі дамамі з добрага лесу, на высокім цагляным падмурку. Некаторыя з іх і зараз служаць людзям. Гарады Беларусі былі пераважна драўлянымі, танулі ў садах і зеляніне і даволі часта гарэлі. Праўда, тагачасная тэхніка ўжо дазваляла лакалізоўваць пажары.

Кожны горад меў адну ці некалькі галоўных вуліц. Яны брукаваліся, а ў буйных гарадскіх цэнтрах пачалі выкладвацца асфальтам, бетонам і нават гранітам. Затое на ўскраінах сустракаліся вуліцы, дзе і летам не высыхалі лужыны. Тут жа купаліся ў гразі свінні, пасвіліся на ўзбочыне козы. У пачатку XX стагоддзя на гарадскіх вуліцах Беларусі з'явіліся першыя аўтамабілі. Закладваўся грамадскі транспарт: конка ў Мінску (1890), Магілёве (1910), трамвай у Віцебску (1898).

**ГАРАДСКІ ПОБЫТ.** Кватэры ў камяніцах па сваіх зручнасцях мала чым адрозніваліся ад сучасных. Яны мелі цэнтральнае вадзяное ацяпленне, электраасвятленне, ванну, тэлефон. Такія кватэры ўпрыгожваліся абкладзенымі мастацкай кафляй камінамі, дарагімі дыванамі, адмысловай мэбляй, добрымі карцінамі, старадаўнімі гадзіннікамі. У штодзённы побыт заможных гараджан усё больш уваходзілі піяніна, грамафоны, веласіпеды. У кватэрах сярэднезабяспечанага люду можна было ўбачыць швей-

**175**

ную машыну, фарфораны і металічны посуд, традыцыйны бліскучы самавар, вісячыя газавыя лямпы са шкляным матавым верхам, гітары.

**ГОРАД І БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРНАЕ АДРАДЖЭННЕ.** Дваццатае стагоддзе ўносіла ў гарады індустрыю адпачынку і масавую культуру. Своеасаблівымі клубамі працоўных з'яўляліся гарадскія шынкі. Тут у нядзельныя і святочныя дні можна было паслухаць музыку, пагуляць у більярд ці ў карты, выпіць чарку і пагутарыць аб жыцці. Гарадскую моладзь вабілі такія новаўвядзенні цывілізаванага жыцця, як спартыўныя спаборніцтвы, цыркавыя прадстаўленні, кінематограф і першыя запісы эстрадных песень. Публіка інтэлігенцкая аб'ядноўвалася ў культурныя, дабрачынныя і навуковыя таварыствы. Іх мелі рускія, палякі, яўрэі. Горад прапаноўваў рускія тэатры, рускія бібліятэкі, рускія музеі...

Так ужо здарылася, што беларускі народ згубіў у царскай няволі свае гарады. Яны сталі чужынскімі. Іх трэба было яшчэ адваяваць эканамічна і культурна. А пакуль беларусы праходзілі ў гарадскіх паселішчах школу жыцця ды далучаліся да здабыткаў сусветнай цывілізацыі.

**НЕКАЛЬКІ СУМНЫХ ВЫСНОЎ.** За ўсю гісторыю царскай няволі беларускі народ толькі ў пачатку XX стагоддзя атрымаў шэсць гадоў (1908--1913) эканамічнага спрыяння. Якраз у гэты час у народнай свядомасці асабліва паспяхова замацоўвалася пачуццё гонару за прыналежнасць да вялікай і магутнай расійскай дзяржавы і нарадзіўся дажыўшы да нашага часу міф аб тым, як добра жылося ў дарэвалюцыйнай Расіі. На самай жа справе царскі ўрад даў беларусам мізэрныя ў параўнанні з еўрапейскімі краінамі эканамічныя і палітычныя палёгкі. Ды і

**176**

то яны тычыліся пераважна праваслаўных.

Наступ індустрыяльнай цывілізацыі рыхтаваў новыя небяспечныя з'явы -- экалагічную катастрофу і духоўную спустошанасць людзей, якая вырастала на атэізме, масавай культуры і на культе спажывання. Індустрыяльнае грамадства добра самазабяспечвалася і не мела патрэбы ў грубай сіле. Яно пачынала ўсведамляць неабходнасць вяртання да этнічных каранёў, каб больш паспяхова пазбаўляцца адмоўных вынікаў дасягненняў тэхнікі на прыроду чалавека. Але ўсё гэта не магло стаць здабыткам царскай імперыі, якая трымалася якраз на гвалце ды цемнаце і беднасці заваяваных народаў. Не прыпынялася гонка ўзбраення.

Рускага эканамічнага цуда не адбылося. Дваранскія вярхі моцна трымаліся за традыцыйныя метады дзяржаўна-прымусовага гаспадарання. Большасць інтэлектуалаў нястомна насаджалі думку аб непазбежнасці рэвалюцыйных метадаў у палітыцы. Вялікадзяржаўныя шавіністы ўпарта не прызнавалі права нярускіх народаў на хоць бы культурную аўтаномію. Імперыю зноў нясло да бездані. Царызм адчуў небяспеку і спяшаўся знайсці падставу для пераможнай вайны. Іншага выйсця ён і не ведаў. Тым больш, што ў Еўропе ўжо пахла порахам. Узніклі два ваенныя блокі: Траісты саюз (Германія, Аўстра-Венгрыя, Італія) і Антанта (французскае— згода), якую складалі Расія, Францыя і Англія.

Пануючае саслоўе дваран, маючы апошні шанц направіць імперыю на шлях пераўтварэння ў садружнасць народаў, губляла яго. Гісторыя наканоўвала Расійскай імперыі непазбежны крах.

ПЕРШЫ ЛІТАРАТУРНЫ АЛЬМАНАХ СЛОНІМСКІХ ЛІТАРАТАРАЎ

# "ЗОЛАК НАД ШЧАРАЙ"

Вось і дачакаліся літаратары Слонімшчыны свой першы калектыўны зборнік твораў. Ён трохтысячным тыражом выйшаў з друку ў Слонімскай узбуйненай друкарні. Дзякуючы, у першую чаргу, яе дырэктару Уладзіславу Філіпаву, а таксама калектыву друкарні, мы сёння маем мажлівасць пазнаёміцца з творамі тых паэтаў, якія жывуць і працуюць у Слоніме. Пад адной вокладкай з назваю "Золак над Шчарай" сабраны творы чатырнаццаці аўтараў, розных па ўзросту і прафесіі.

Альманах "Золак над Шчарай" адкрываецца ўступным словам "Літаратурная Слонімшчына" нашага земляка, кандыдата філалагічных навук з Мінска Янкі Саламевіча. У ім ідзе гаворка пра гістарычны шлях літаратурнай Слонімшчыны. Дарэчы, Янка Саламевіч упершыню ўспамінае і пра тых пісьменнікаў нашага краю, пра якіх яшчэ мала хто пісаў. Гэта -- Ф. Хамінскі і І. Ляхніцкі, якія працавалі ў тэатры М. Агінскага, а таксама Ю. Каблянскі, які жыў у Слоніме ў XVIII стагоддзі. З 1844 года ў Жыровіцкай духоўнай семінарыі працаваў прафесар-этнограф І. Юркевіч. "Зусім нядаўна, -- піша далей Янка Саламевіч, -- А. Мальдзіс і І. Крамко апублікавалі створаныя ў 1622 годзе творы жыровіцкага манаха Феадосія Баравіка, напісаныя на ўзорнай беларускай літаратурнай мове XVII стагоддзя "О образех, о реликвях" і "Гісторыа або повесть людей розных, веры годных о образе чудовном пренаисвятейшое девы Маріи жировицком в повете Слонимском..." (арыгіналы зберагаюцца ў бібліятэцы Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу)".

З трох раздзелаў складаецца кніга "Золак над Шчарай". Раздзел "Паэзія" пачынае Анатоль Іверс (Іван Міско). Дарэчы, ён выдаў ужо чатыры зборнікі сваіх вершаў. Першы з іх выйшаў з друку аж у 1939 годзе ў Вільні з прыгожаю назвай "Песні на загонах". Яшчэ тады паэт пісаў:

**І кацілася з аддалля**
**Песня -- сонца пазалота --**
**І злівалася на хвалях**
**З гібкім гоманам чаротаў...**

У зборнік "Золак над Шчарай" Анатоль Іверс уключыў вершы, якія ён напісаў у розны час, пачынаючы з 1938 года.

Нядаўна ў Азярніцкай сярэдняй школе адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны памяці паэта Алеся Сучка (Пятра Дабрыяна), якога год назад не стала. Ён вельмі чакаў гэты альманах, але, на жаль, так і не дачакаўся. Падборка яго вершаў, якая ўвайшла ў зборнік, прысвечана сябрам па змаганню і прыгажосці роднай зямлі.

Васіль Супрун нарадзіўся ў вёсцы Глоўсевічы. У 1947 годзе быў арыштаваны органамі НКУС і засуджаны на 25 гадоў. Гэтай тэме і прысвечаны яго паэтычныя радкі, якія пісаліся ў Інце і Варкуце.

У біяграфіі Рудольфа Пастухова, якая змешчана ў зборніку, сказана, што "рос і выхоўваўся ў ГУЛАГу і там пачаў пісаць вершы". Паэт піша на рускай мове. Творы яго даволі дасканалыя і напісаны на высокім прафесійным узроўні. Яны арыгінальныя, і арыгінальнасць Пастухова-паэта перш за ўсё ў смелай паэтычнай вобразнасці і асацыятыўным мысленні.

Шырока прадстаўлена ў зборніку "Золак над Шчарай" і творчасць нашых жанчын. І, наогул, жаночая літаратура ў Беларусі зараз прагрэсіруе. Прыкладам могуць служыць і нашы зямлячкі Алена Руцкая, Ірына Войтка, Валянціна Пусташылава, Ларыса Тамільчык і Алена Бурсевіч, вершы якіх вызначаюцца лірызмам і своеасаблівай маляўнічасцю. Алена Руцкая і Ірына Войтка -- вопытныя паэткі, вершы якіх друкаваліся ў многіх рэспубліканскіх газетах і часопісах. А Алена Руцкая мае і свой уласны зборнік вершаў "Роздум", які ўбачыў свет у Мінску ў 1988 годзе. Што датычыць астатніх дзяўчат, то шчыра скажу, што працаваць ім яшчэ і працаваць над паэтычным словам, бо здольнасці ў іх ёсць.

Прозу ў кнізе прадстаўляе Іван Сяргейчык. Тут змешчаны два яго апавяданні "Падарунак" і "Горкая пяшчота".

Апошні публіцыстычны раздзел кнігі самы цікавы і разнастайны. Уладзімір Шундрык расказвае пра жыццёвы і творчы шлях старэйшага беларускага паэта і перакладчыка са Слоніма Гальяша Леўчыка (1880--1944). З гэтага матэрыялу мы ўпершыню даведаемся, што некалі наш Гальяш Леўчык падрыхтаваў зборнік вершаў "Беларускі жаўранак", але ён не быў выдадзены. А таксама зборнік трыялетаў усходнеазіяцкай мудрасці "Мудра прыгаворка -- соладка і горка" і кнігу вершаваных памфлетаў "Камплект дзеячаў", а яшчэ -- пераклад паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды". Усе яны, на жаль, сёння нам не вядомыя.

Вельмі цікавы артыкул пра яшчэ аднаго малавядомага празаіка, паэта і драматурга са Слонімшчыны Кандрата Лейку прапануе ўвазе чытачоў Мікалай Сідаровіч.

Ігар Падгарадзецкі выступае з матэрыялам "Па слядах гамбургскага працэсу". У ім ідзе гаворка пра "чорныя дні фашысцкай акупацыі" на Слонімшчыне ў гады вайны. Аляксандр Жукоўскі расказвае пра барацьбу за родную мову ў былой Заходняй Беларусі, а Васіль Супрун знаёміць чытачоў з гісторыяй зямлі слонімскай...

Вось такім атрымаўся альманах "Золак над Шчарай". Зроблена добрая справа, таму яна заслугоўвае і добрых слоў.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# ПЕГАС НА ПРАСПЕКЦЕ СКАРЫНЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

І сапраўды, калі аднойчы пры дапамозе метадаў біялакацыі абследавалі кабінет Алы Анатольеўны, высветлілася, што кветкі выпраменьваюць настолькі моцную станоўчую энергію, што яна "перакрывае" любыя адмоўныя ўздзеянні. Што ж тычыцца карцін, якія мяне зацікавілі, то яны сапраўдныя, даваенныя, а не (як падумалася адразу) спроба сучасных мастакоў паспекуляваць на "гарачай" тэме. Аднойчы Ала Анатольеўна прыйшла ў наш Дзяржаўны мастацкі музей, у запасніках якога захоўвалася шмат палотнаў былых часоў, і ўбачыла, як іх знішчаюць. Прычым, у нябыт адпраўляліся не толькі самі карціны, але і слайды, на якіх яны былі сфатаграфаваны. Не ведаю, шчыра кажучы, як сёння трэба разглядаць і ацэньваць вернападданіцкія творы былых часоў, але ж тое, што яны так ці інакш частка калі не мастацтва, дык гісторыі нашай, -- несумненна. Паліць карціны і знішчаць помнікі толькі таму, што змяніліся нашы погляды, мякка кажучы, неразумна. Вось і вырашыла Ала Анатольеўна выставіць гэтыя карціны ў салоне. Між іншым, раскупляюць, і няблага.

У былыя часы дзейнасць салона выходзіла далёка за рамкі простага гандлю творамі мастацтва. Дагэтуль многія мінчане ўспамінаюць выставы, якія традыцыйна ладзіліся яго супрацоўнікамі. Аб узроўні такіх мерапрыемстваў сведчыць хаця б тое, што на адну з іх наведвальнікаў прыйшло больш, чым на праходзіўшую адначасова справаздачную выставу Саюза мастакоў, а палову экспанатаў яе адразу закупіў Дзяржаўны мастацкі музей. На самую першую такую выставу чарга стаяла ажно да магазіна "Падпісныя выданні". І ніхто, між іншым, не сварыўся, не штурхаўся, не лез наперад... Зараз такую выставу правесці немагчыма: патрэбны вельмі вялікія грошы. Сёння ў самым нявыгадным становішчы апынуліся мастакі і ўстановы культуры. Супрацоўнікі салона подых айчыннага дзікага рынку ўжо адчулі, як адчулі яго і беларускія мастакі, некаторыя з якіх зараз адмаўляюцца прадаваць свае работы, бо сапраўднай цаны за іх не даюць, а аддаваць за бясцэнак карціны, якія потым на Захадзе ідуць у галерэях за вялікія грошы, проста не хочуць. Успамінае зараз Ала Анатольеўна адну замежную пастаянную пакупніцу, якая ў былыя часы рэгулярна наведвала Мінск, мяняла на рублі 200--300 долараў і на атрыманую суму купляла палову карцін у салоне. Гавораць, што на прыбыткі ад гэтага бізнесу ўдачлівая прадпрымальніца пабудавала сабе ў Амерыцы выдатны дом і сёння валодае галерэяй, дзе выстаўлены і работы беларускіх мастакоў, толькі, вядома, па іншых цэнах. Зараз яна таксама прыязджае сюды, але ж плаціць па 200 долараў за адну карціну ўжо не хоча, бо дарага. У тыя часы, калі мы без шкадавання па стратных цэнах распрадавалі сваё мастацтва, існавалі замежныя аматары прыгажосці, якія мэтанакіравана аб'язджалі мастацкія салоны былога Савецкага Саюза і скуплялі там за бясцэнак выдатныя творы. Мінск яны любілі асобай любоўю, бо цэны тут заўсёды былі ніжэйшыя, чым у іншых салонах краіны.

А як жа мытня, куды глядзелі пагранічнікі, справядліва запытаецеся вы. Там глядзелі ў асноўным у багаж савецкіх грамадзян, уладальнікі ж замежных пашпартоў па зялёнай вуліцы вывозілі ўсё, што ім было патрэбна. Так што мастакоў сёння можна зразумець: быць жабраком зняважальна і сорамна, але ж куды больш крыўдна быць падманутым, калі на табе, бедным і немаёмным, нехта робіць вялікія грошы.

Сенняшнія пакупнікі салона -- людзі розныя. Прыходзяць сюды супрацоўнікі Міністэрства замежных спраў, прадстаўнікі буйных фірм і прадпрыемстваў, якім патрэбны добрыя дарагія сувеніры для паездак за мяжу, часам некалькі чалавек -- калегі ці сваякі --скідваюцца, каб набыць каштоўную рэч. Не абыходзяць увагай салон і замежныя наведвальнікі. Для іх быў створаны валютны аддзел. Але ж дзяржава акуратна забірала сабе ўсю выручку, і чакаемы прыбытак абярнуўся адныімі стратамі. Аддзел зачынілі, адкрыўшы замест яго пункт абмену валюты, дзе замежныя госці, калі яны вырашаць нешта набыць, могуць абмяняць грошы. Так што зараз проста ў дзвярах вас сустрэнуць і з традыцыйнай прымаўкай "долары, марачкі, расійскія рублі" праводзяць у залу дужыя, квадратныя і надта ж далёкія ад мастацтва хлопцы.

Шмат клопату дастаўляе супрацоўнікам салона стыхійная выстаўка-продаж, што размясцілася пад іх вокнамі. Дастаткова прыгадаць, што ўжо пяць разоў даводзілася ўстаўляць новае шкло замест пабітага вулічнымі мастакамі-гандлярамі. Цяжка сказаць, што гэта -- выпадковасць ці адказ на спробы Алы Анатольеўны дабіцца, каб гэты рынак быў перанесены ў іншае месца. Аднак дзіўна, што мінская міліцыя, якая цэлымі нарадамі выязджае, каб разагнаць двух-трох старых, што гандлююць агуркамі ля гастранома, ці ад беднасці сваёй прадаюць на вуліцы апошнія боты, гэты рынак не чапае. Увогуле, нічога дрэннага ў тым, што людзі хочуць прадаць свае карціны ці іншыя мастацкія вырабы, няма. Але ж сёння можна з упэўненасцю сказаць, што спроба зрабіць Манмартр на праспекце Скарыны не ўдалася. Вузкая і брудная палоска тратуара, застаўленая карцінамі і керамікай рознай мастацкай вартасці, усё ж такі мала нагадвае Парыж. Куды лепш было б перанесці гэты кірмаш у адзін са скувераў у цэнтры горада. Чамусьці для гандлю адзеннем і абуткам гарадскія ўлады аддалі буйнейшы стадыён "Дынама". Можа, надышоў час паклапаціцца і аб мастаках?

У цэнтры салона стаіць цудоўны саламяны Пегас. Залаты, горды, надзвычай прыгожы, ён прыцягвае да сябе ўвагу ўсіх наведвальнікаў. Адзін такі конь ужо паехаў у далёкую Амерыку. Не хацела Ала Анатольеўна яго прадаваць: хай беларускі конь на Беларусі жыве і беларусаў радуе, а амерыканцы -- да ліку якіх належаў вельмі настойлівы пакупнік -- сабе яшчэ што-небудзь прыгожае знойдуць, у іх для гэтага магчымасцей найболей будзе. Ды амерыканец хадзіў і хадзіў, расказваў пра дзяцей, якія беларускім канём любавацца будуць, і выпрасіў-такі дзіўнага Пегаса. Але ж і цану за яго папрасілі такую, што толькі закрактаў заморскі пакупнік. Закрактаў... і выклаў, колькі запрасілі. А можа і правільна, што прадалі, бо адзін такі конь пра краіну нашу за акіянам раскажа і пакажа больш за дзесятак прафесійных палітыкаў. Як, дарэчы, і ўсё наша мастацтва, часцінку якога заўсёды можна ўбачыць і набыць у Мастацкім салоне на праспекце Скарыны ў Мінску.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**




## ПЕРШЫ НАПАМІНАК ПРА... НОВЫ ГОД

Ім стаў адрыўны каляндар "Родны край" на наступны, 1995 год, які днямі з'явіўся ў кнігарнях рэспублікі. Гэтым разам выдавецтва "Беларусь" паклапацілася,каб жадаючыя набыць яго маглі зрабіць гэта загадзя. Што ж, памкненне добрае, бо, не будзем забываць, раней той самы "Родны край" запазняўся. Наклад календара -- 200 тысяч асобнікаў (для прыкладу, сёлетні меў усяго 130 тысяч). Добра, што вытрыманы прынцып, які быў і дагэтуль: даць як мага больш інфармацыі пра самыя розныя бакі жыцця, каштоўныя парады, расказаць пра знамянальныя даты і падзеі, пазнаёміць з народнымі звычаямі, абрадамі.

## АД ВІТАЎТА КІПЕЛЯ

Унікальны твор мастацтва канца XVIII стагоддзя перадаў для музейнай экспазіцыі "Беларусы ў свеце", што існуе пры Цэнтры імя Ф.Скарыны, дырэктар Інстытута навукі і мастацтваў у Нью-Йорку доктар Вітаўт Кіпель.

Гэта партрэт вяльможы, выкананы невядомым мастаком на меднай пласціне. Створаны ён, на думку спецыялістаў, недзе на Віцебшчыне.

## ЯКІМ БЫЛО ВОЙСКА

нашай дзяржавы некалькі стагоддзяў назад? На гэтае пытанне можна знайсці адказ у кнізе Генадзя Сагановіча "Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI--XVII стагоддзях", выпушчанай выдавецтвам "Навука і тэхніка".

Аўтар, які апошнім часам вельмі пільна прыглядаецца да нашай даўняй гісторыі, і гэтым разам, выкарыстоўваючы малавядомыя даследчыкам матэрыялы, прыводзіць звесткі, што даюць мажлівасць пераканацца, якой моцнай дзяржавай з'яўлялася ВКЛ, як шмат рабілася ў ім па мабілізацыі і арганізацыі войска.

Найпершую ўвагу Г. Сагановіч удзяляе тым вайсковым фарміраванням, што былі з тэрыторыі цяперашняй Беларусі.



# АРШАНСКІ ЕЗУІЦКІ КАЛЕГІУМ

Кіраўнікамі сталярнай майстэрні ў XVII стагоддзі працавалі езуіты Мікалай Гурбіловіч і Себасцян Яцкоўскі, у канцы XVIII стагоддзя -- Андрэй Сальцэвіч. Сталярня знаходзілася ў двухпавярховай муранай афіцыне на беразе Аршыцы, у якой апроч таго размяшчаліся саладоўня, бровар, пякарня і памяшканні для чэлядзі.

Пры калегіуме "з даўных часоў" у невялікім аднапавярховым мураваным будынку існавала аптэка. Як паведамлялася ў адным з актаў візітацый, створана яна была "як для хуткага паратунку пры патрэбе асобаў манаскіх, так і навучэнцаў, уласных падданых і ўбогіх". Пры гэтай першай у горадзе аптэцы жыў зацверджаны ўрачэбнай управай правізар, які меў ад езуітаў стол і пенсію. Зёлкі і карэнні для аптэкі вырошчваліся тут жа на калегіумным двары ў так званым "батанічным агародзе". Апроч таго пры калегіі меўся вялікі сад са значнай колькасцю фруктовых дрэў, якія былі пасаджаны "ў лініі" і дагляддаліся садоўнікам. Пладоў, што давалі дрэвы, хапала езуітам для забеспячэння ўласных патрэб і нават тое-сёе трапляла на продаж.

У важнейшыя хрысціянскія святы езуітамі звычайна праводзіліся пышныя набажэнствы ў касцёле або наладжваліся шэсці-працэсіі па вуліцах горада. Шырока адзначаліся таксама нараджэнні, шлюбы, імяніны і пахаванні знакамітых магнатаў. Так, 25 лістапада 1764 года ў Оршы святкавалі дзень "шчаслівай каранацыі" апошняга караля Рэчы Паспалітай абодвух народаў Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Як паведамляў пазней "Варшаўскі кур'ер", ягамосць Мікалай Сава Храпавіцкі, пілвіскі стараста, паручнік пяцігорскі ў войску ВКЛ, каптуровы маршалак Аршанскага павета на пачатку ўрачыстасцяў загадаў "надворным жаўнерам" паліць у гонар караля з гармат і ручной зброі. Потым пан Храпавіцкі "з цэлай кампаніяй" адбыў на набажэнства да айцоў-езуітаў, якія з нагоды свята прамаўлялі ў сваім касцёле ўрачыстую казань. Пазней усіх гасцей пан стараста запрасіў да сябе на абед, які завяршыўся балем.

Асноўнымі апорнымі пунктамі езуітаў апроч калегій з'яўляліся рэзідэнцыі і місіі, якія адчыняліся імі ў навакольных вёсках і фальварках. Рэзідэнцыя звычайна рабілася месцам пастаяннага знаходжання езуітаў і была пераходнай ступенню да стварэння калегіі. Місіі часцей за ўсё адчыняліся ў аддаленых вёсках, якія належалі калегіі, дзеля рэлігійнага абслугоўвання мясцовага насельніцтва. Звычайна ў іх жылі 2-3 манахі.

Аршанскія езуіты адчынілі сваю місію ў вёсцы Пагост, а рэзідэнцыю -- у маёнтку Фашчаўка, дзе ўзвялі мураваны касцёл у імя Прасвятой Дзевы Марыі. Будаваць яго пачалі ў 1738 годзе, аднак у хуткім часе адбылося нечаканае здарэнне, якое надоўга перапыніла працы: на рыштаваннях касцёла ўдарам маланкі быў забіты кіраўнік будаўніцтва езуіт Юры Шык. Цела яго часова пахавалі пад старым драўляным касцёлам, а ў верасні 1754 года перанеслі да крыпты новага храма. Будаўніцтва касцёла было працягнута толькі пасля 1746 года, кіраўніком прац быў прызначаны ўжо згаданы вышэй Бенедыкт Мезмер (адначасова ён кіраваў будаўніцтвам трох касцёлаў: у Фашчаўцы, Оршы і Мсціславе). Касцёл быў ужо амаль гатовы, калі ў 1757 годзе "па віне архітэктара" абрынуліся толькі што збудаваныя мураваныя хоры. Дакладная дата заканчэння і асвячэння Фашчаўскага касцёла на сёння невядомая. На пачатку XIX стагоддзя пры ім утрымліваўся шпіталь для састарэлых, бяздомных, хворых і сірот.

Місія аршанскіх езуітаў у вёсцы Пагост дзейнічала пры ўзведзеным там драўляным касцёле. "Фальваркавым коштам" пры касцёле таксама ўтрымліваўся невялікі шпіталь.

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 38.**

## ЕЗУІЦКАЯ НАВУКА

Ордэн езуітаў быў першай з каталіцкіх арганізацый, якія прысвяцілі сябе справе выхавання юнацтва. Ва ўсіх калегіях апроч выхавання і навучання манахаў-клірыкаў заўсёды займаліся і адукацыяй свецкай моладзі. Дзеля гэтага спецыяльна ствараліся публічныя школы. 5-класная публічная школа існавала і пры Аршанскім калегіуме. Манаполію на адукацыю шляхецкай моладзі ў горадзе і ва ўсім Аршанскім павеце езуіты атрымалі ад караля Жыгімонта III яшчэ ў 1621 годзе.

Езуітамі была распрацавана цэлая сістэма навучання, у якой запазычаныя ад ідэй гуманізму знешнія формы былі напоўнены схаластычным зместам. Мэтай адукацыі была абвешчана "вучоная і красамоўная пабожнасць". Кожны навучэнец павінен быў дасканала авалодаць антычнымі мовамі (перш за ўсё лацінай), добра ведаць творы рымскіх аўтараў, умець пісаць вершы і складаць прамовы. Праграмы навучання ў розных калегіях былі аднолькавымі, а кола вывучаемых прадметаў залежала толькі ад статуса самой калегіі: была яна ніжэйшай (з курсамі інфімы, граматыкі і сінтаксы), сярэдняй (з курсамі паэтыкі і рыторыкі) або вышэйшай (з курсамі логікі і тэалогіі). Першым пры Аршанскай калегіі быў адчынены клас граматыкі яшчэ ў 1618 годзе, праз два гады пасля яе адкрыцця, у 1623 годзе -- клас паэтыкі. З 1634 года тут выкладалася рыторыка, з 1696-га -- логіка, з 1724 года -- філасофія.

Да нашага часу захаваўся рэдкі дакумент, у якім прыведзены пералік навук, што выкладаліся ў школе Аршанскай калегіі на пачатку XIX стагоддзя. Адціснуты ён быў у друкарні Акадэміі езуітаў у Полацку. У 1--3 класах школы з моваў выкладалася толькі лаціна, з астатніх прадметаў -- хрысціянская навука, гісторыя, геаграфія і арыфметыка. У 4--5 класах апроч лаціны вывучалі яшчэ расейскую, нямецкую і французскую мовы, грэчаскую гісторыю, старажытную і сучасную геаграфію, алгебру, практычную геаметрыю, вучыліся маляваць. Цікава, што ў адным класе маглі апынуцца вучні самага рознага ўзросту -- ад 8 да 32 (!) гадоў. Такія выпадкі былі зафіксаваны ў актах візітацыі калегіі і, трэба адзначыць, не надта здзіўлялі сучаснікаў.

Выкладанне ў школе вялося бясплатна. Аршанскія езуіты прымалі да сябе на навуку як дзяцей гарадской і павятовай шляхты, так і простых мяшчан. Траплялі сюды хлопчыкі і з заможных сем'яў, і з сем'яў беднякоў-гаротнікаў. Амаль палова вучняў і жыла пры калегіі. Гэта былі так званыя канвіктары і бурсакі. Бацькі канвіктараў уносілі езуітам пэўную плату за "стол, ацяпленне і пансіён" сваіх дзяцей. Жылі гэтыя хлопчыкі побач з манахамі ў будынку калегіума ва ўтульных пакоях з распісанымі скляпеннямі. Бурсакі -- дзеці зусім збяднелай шляхты і гараджан -- поўнасцю ўтрымліваліся за кошт езуітаў. Яны жылі ў трох вялікіх пакоях, што размяшчаліся ў адным будынку са школай. Дадаткова іх навучалі спевам і ігры на музычных інструментах -- бурсакі абавязаны былі бясплатна граць у "музыцы касцельнай", спяваць у хоры, а таксама абслугоўваць розныя мерапрыемствы ордэна (удзельнічаць у працэсіях, тэатральных спектаклях і г.д.).

Схільнасць да наладжвання адметных відовішчаў увогуле была характэрнай прыкметай дзейнасці манахаў-езуітаў на Беларусі. Ян Баршчэўскі ў сваім "Шляхціцу Завальні" пакінуў красамоўны аповяд пра Драўлянага Дзядка, што некалі месціўся ў мурах полацкіх езуітаў і, "высунуўшыся з-за сцяны праз вузкае акенца, даваў парады і перасцярогі". Не менш каларытныя ўспаміны пра "публічныя эксперыменты" віцебскіх айцоў-езуітаў пакінуў мемуарыст XIX стагоддзя Максіміліян Маркс. У прыватнасці, ён пісаў, што ў прызначаныя перадсвяточныя дні са званіцы тамтэйшага езуіцкага касцёла "то ўзлятаў паветраны шар з лялькамі, якія сядзелі ў лодцы, то бясшкодна спускаўся на плошчу прывязаны да парашута казёл. А ў залах вучылішча, у адной -- цёмнай -- чароўны ліхтар паказваў цуды святых Лаёлы, Гансага, Косткі, Баболі і іншых членаў societatis Iesu (таварыства Ісуса); у другой жа -- светлай -- грымучы газ з выбухам згараў у лятаючых мыльных бурбалках або канічныя люстэркі збіралі пачварныя разводы ў вытанчаныя малюнкі".

На жаль, сведчанняў такога кшталту сярод аршанскіх мемуарыстаў мы не маем, хоць занатоўваць сучаснікам, думаецца, таксама было што. З канца XVII да сярэдзіны XVIII стагоддзя пры Аршанскай калегіі дзейнічаў школьны тэатр. Вучэбныя пастаноўкі адбываліся ў спецыяльна прыстасаванай рэкрэацыйнай зале калегіума або проста на вуліцах горада, дзе наладжваліся паказы міракляў ("дыялогаў") і містэрый. Пэўнае ўяўленне аб рэпертуары тэатра дае "Аршанскі кодэкс" -- рукапісны зборнік барочных драм канца XVII стагоддзя, які быў створаны ў самой калегіі. Змешчаныя ў ім польскамоўныя драмы з беларускімі інтэрмедыямі ставіліся ў школьных тэатрах Оршы, Полацка, Навагрудка, Віцебска. Зараз "Аршанскі кодэкс" захоўваецца ў Польшчы, у бібліятэцы імя Асалінскіх у Вроцлаве.

**( Заканчэнне на 8-й стар.).**

---

**БЕЛАРУСКІ ДРУК У АМЕРЫЦЫ**

# ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ "ВЕДЫ"

Аўтарамі часопіса, сябрамі-даследчыкамі таварыства і ахвяравальнікамі Ян Станкевіч запрасіў знакамітых беларусаў на эміграцыі -- паэтку Наталлю Арсенневу, кампазітараў Міколу Равенскага і Міколу Кулінковіча, скарынаведа Вітаўта Тумаша, Антона Адамовіча, даследчыка беларускай літаратуры і мастацкай культуры, былога маладнякоўца Уладзіміра Сядуру, пісьменніка Юрку Віцьбіча. На чарговым з'ездзе Крывіцкага навуковага таварыства (Нью-Йорк, красавік 1951 года) быў выбраны новы прэзідыум: старшынёю застаўся Ян Станкевіч, які меў званне прафесара, намеснікам стаў Антон Адамовіч, сакратаром -- прафесар В. Федуковіч, а скарбнікам -- Антон Шукелойць. Да актыву таварыства належалі А. Махноўскі, Я. Юхнавец, Я. Ліманоўскі, М. Кунцэвіч, яны ўвайшлі ў склад рэвізійнай камісіі.

Часопіс "Веда" планаваўся як месячнік, але выходзіў нерэгулярна, адзін раз у два-тры месяцы з суцэльнай нумарацыяй старонак за кожны год. На першым этапе (1951--1954 гады) ён быў трыбунай "крывіцкай" канцэпцыі беларускай гісторыі і культуры. З-за недахопу сродкаў (Ян Станкевіч быў не толькі асноўным аўтарам выдання, штомесяц ахвяроўваў на яго грошы) не стварыўся стабільны калектыў прафесіянальных аўтараў. Рэдактару даводзілася шчыраваць самому з некалькімі памочнікамі. У 1955--1972 гадах часопіс не выходзіў. Толькі ў 1973-м Ян Станкевіч апублікаваў два ратапрынтныя нумары "Веды" са сваімі пераважна публікацыямі, дзе вызначылася новая, "вялікалітоўская" канцэпцыя беларускай гісторыі. Верагодна, на большае не хапала ні сродкаў, ні сілы ў 82-гадовага даследчыка і барацьбіта за вялікакрыўскую (беларускую) ідэю. 16 ліпеня 1976 года Ян Станкевіч памёр.

Сутнасць вялікакрыўскай канцэпцыі беларускай гісторыі і культуры заключаецца ў гіпотэзе, паводле якой яшчэ да прыходу варажскага племені русь у рэгіёны ўсходніх славянаў утварылася вялікакрывіцкая дзяржава ў форме саюза "крывіцкіх" плямёнаў, продкаў беларускага народа. Дзяржава ахоплівала тэрыторыю ад Буга і ніжняга Нёмана на захадзе да Клязьмы на ўсходзе, ад Пскоўшчыны на поўначы да Чарнігаўшчыны на поўдні. Варажскае племя, закліканае крывічамі і наўгародцамі ў якасці ваенных дружынаў, заблытала самабытны гістарычны шлях крывічоў ды іншых усходнеславянскіх народаў, навязаўшы ім чужое імя русь; а прынятае кіеўскім князем і залежнымі ад яго князямі кіеўскіх "удзелаў" хрысціянства не здолела засвоіць і развіць глыбінныя пласты народнай культуры.

Але крыўскі народ усё ж магутна і ярка ўвайшоў у сусветную гісторыю: спачатку як Полацкае, Смаленскае, Турава-Пінскае і іншыя княствы, што адстаялі сваю незалежнасць ад Кіева, а ў сярэдзіне XIII--XV стагоддзяў стварыўшы Вялікае Княства Літоўскае, якое здолела аднавіць Вялікую Крыўю ў новым дзяржаўным абліччы, уключыць у яго літувіскія землі Аўкшайці і Жамойці, вызваліць Украіну ад татара-мангольскага іга, прабіцца на захадзе да Балтыйскага, а на поўдні да Чорнага мораў, апярэдзіўшы, такім чынам, Маскву ў справе аб'яднання ўсходнеславянскіх і балцкіх народаў у вялікую федэрацыю і абмежаваўшы маскоўскія імперскія амбіцыі, зашыфраваныя ў геапалітычнай канцэпцыі Трэцяга Рыма.

Аўтары вялікакрыўскай гістарычнай і геапалітычнай канцэпцыі абвяргалі ходкую ў Беларусі думку, быццам бы ў XVII--XVIII стагоддзях адбылася татальная паланізацыя беларускага шляхецтва і гарадскога насельніцтва, а беларуская мова і культура аказаліся выцесненымі польскай мовай і культурай. На іх думку, паланізацыя захапіла толькі функцыянальныя вярхі грамадства; народнае ядро захавала і развіло самабытную культуру, дастатковую для таго, каб паслужыць духоўным фундаментам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі яшчэ ў канцы XVIII -- першай палове XIX стагоддзяў.

Глабальная небяспека для гістарычнага быцця беларускага народа ўзнікла пасля гвалтоўнага далучэння Вялікай Літвы да Расійскай імперыі, бо яна праводзіла ў дачыненні да беларусаў (крывічоў, велікалітвінаў) палітыку "духоўнага этнацыду, планамернай велікарасійскай эканамічнай, палітычнай і культурнай экспансіі на Беларусі, ператворанай у расійскую правінцыю -- Паўночна-Заходні край. Але і расійскі Левіяфан, пракаўтнуўшы вялікую Беларуска-Літоўскую дзяржаву, не здолеў пераварыць чужыя для расійцаў, заходнееўрапейскія паводле культурна-псіхалагічных параметраў этнасы, масавая русіфікацыя закранула толькі функцыянальныя сферы грамадства -- дзяржаўнае кіраванне, школу, афіцыйную культуру, рэлігію. Фатальны крызіс Расійскай імперыі, што пачаўся ў рэвалюцыю 1905--1907 гадоў і закончыўся ў 1917 годзе, даў магчымасць адрадзіцца беларускай дзяржаве: паўстала Беларуская Народная Рэспубліка.

Урэшце, аднаўленне Расійскай імперыі ў абліччы бальшавіцкага Савецкага Саюза, арыентаванага на антыхрысціянскія атэістычныя догмы, стала самым цяжкім выпрабаваннем для беларусаў.

Этна-культурная моц нацыі была падарвана знішчэннем і падаўленнем беларускай нацыянальнай эліты і сялянства -- яе духоўнай "эседыцыі" і сацыяльна-эканамічнага апірышча. Надзея на вызваленне Беларусі ў выніку другой сусветнай вайны не спраўдзілася. Вось тады беларуская эміграцыя, адным з радыкальных лідэраў якой быў Ян Станкевіч, засяродзілася на ідэалагічнай і навуковай падрыхтоўцы чарговага адраджэнскага працэсу ў Беларусі, які, на іх думку, пачнецца пасля, так сказаць, "эвалюцыйнай рэдукцыі" бальшавізму.

Задача створанага Станкевічам Крывіцкага (Беларускага) навуковага таварыства і часопіса "Веда" заключалася ў актывізацыі нацыянальна-вызваленчага і духоўна-абнаўленчага працэсаў. Асноўная ўвага звярталася на рэстаўрацыю аўтэнтычнай беларускай мовы і гісторыі, бо яны на працягу двух стагоддзяў абкрадваліся і перараб ляліся на чужацкі капыл. Ян Станкевіч на аснове гістарычных прэцэдэнтаў даказваў: паланізацыя і русіфікацыя сацыяльнай "верхавіны" дэфармавала, але не разбурыла беларуска-крывіцкую традыцыю ў свядомасці яе лепшых прадстаўнікоў. Вось яны ў зорны час нацыі будуць вяртацца да сваіх вытокаў і каранёў.

**Уладзімір КОНАН.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 38.**





# МІНУЎШЧЫНА ДЛЯ НАШЧАДКАЎ

( Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

У сектары Падняпроўе -- вулічная двухбаковая забудова. Двары, гаспадарчыя будынкі стаяць свабодна, бессістэмна ў сектары Паазер'е.

Усяго адрэстаўравана 20 помнікаў, заканчваецца рэстаўрацыя яшчэ 16 аб'ектаў драўлянага дойлідства, у тым ліку Праабражэнская царква 1707 года з вёскі Барань Аршанскага раёна, царква са званіцай XYIII стагоддзя з вёскі Вялец Глыбоцкага раёна.

Сяляне, асабліва жанчыны і дзеці, значную частку жыцця праводзілі ў хаце, таму абавязкова паказваецца інтэр'ер жылой часткі сядзібы. Посуд для прыгатавання ежы: разнастайныя керамічныя гаршкі, збанкі, міскі, драўляныя дзежкі, лыжкі, калатоўкі і г.д. -- усё гэта трымала гаспадыня ў сваім так званым "бабіным куце". Зімою і ўвосень хатнія пралі, плялі кошыкі, вязалі венікі, вілі вяроўкі. А спаць клаліся, дзе давядзецца: на лавах, на печы, а некаторыя сем'і па старой завядзёнцы -- покатам на палку.



Музей народнага беларускага дойлідства ствараецца з вялікімі цяжкасцямі: не хапае будаўнічых матэрыялаў, сапраўдных высокакваліфікаваных спецыялістаў, абмежаванае фінансаванне, адсутнічаюць фундатары, няма валютных сродкаў.

Паважаныя землякі! Хацелася б даведацца пра падобныя музеі ў краінах, дзе вы жывяце, удзячныя былі б за канкрэтныя прапановы па стварэнню нашага музея.

Запрашаем наведаць наш музей у любы спрыяльны для вас час, рады былі б прыняць ад вас выстаўку ці, наадварот, з задавальненнем прывезлі б калекцыі з фондаў нашага музея. Мы прынялі б у фонды музея этнаграфічныя беларускія рэчы, якія, магчыма, захоўваюцца ў вас.

Галоўнае для нас -- пазнаёміць людзей з помнікамі гісторыі і культуры нашых продкаў, каб вучыліся яны ашчадна ставіцца да мінулага свайго народа. Трэба ахоўваць і шанаваць умельства і майстэрства дзядуліных і бабуліных рук.

Галіна ЛАТОШ.

Фота Віктара СТАВЕРА



# АРШАНСКІ ЕЗУІЦКІ КАЛЕГІУМ

(Заканчэнне.
Пачатак на 7-й стар.).

Пры ўсіх хібах, якія ўвогуле мела адукацыя, атрыманая ў езуітаў (абскурантысцкія адносіны да ідэй вальнадумства, падаўленне асобы вучня жорсткай дысцыплінай, адсутнасць у структуры класічнай школы нацыянальнага элемента і г.д.), можна сцвярджаць, што аршанская езуіцкая школа была для свайго часу моцным асяродкам адукацыі на ўсёй Аршаншчыне. На працягу трох першых чвэрцяў XVIII стагоддзя ў ёй працавалі 4--5 прафесараў, людзей адметнай адукацыі і ведаў. Статыстычныя даныя аб колькасці вучняў захаваліся толькі на пачатак XIX стагоддзя: у розныя гады ў школе навучаліся ад 36 да 90 чалавек.

Асаблівую цікавасць, канечне, уяўляюць славутыя выхаванцы аршанскіх езуітаў. Пасля заканчэння школы некаторыя з вучняў прынялі духоўны сан і здолелі зрабіць сабе добрую кар'еру на новай ніве. Сярод іх варта адзначыць Яна Красоўскага, які стаў уніяцкім біскупам; Станіслава Шадурскага (1726--1786), прафесара філасофіі, выкладчыка тэалогіі і царкоўнага права; Францішка Кару (1731--1802), прафесара архітэктуры, рэктара Полацкага і Аршанскага калегіумаў, генеральнага вікарыя езуітаў на Беларусі. З тых вучняў аршанскіх езуітаў, што засталіся "ў свеце", асабліва вылучаецца постаць Пётры Завадоўскага (1739--1812), знакамітага расійскага дзяржаўнага дзеяча, міністра народнай асветы ва ўрадзе Аляксандра I.Натуральна, што пра гэты факт біяграфіі славутага сенатара не вельмі любіла згадваць дарэвалюцыйная дваранская гістарыяграфія.

## АД ШКОЛЫ ДА ТУРМЫ

Аршанская езуіцкая калегія перапыніла сваю дзейнасць у 1820 годзе, калі па загаду Аляксандра I на тэрыторыі Расійскай імперыі ордэн быў скасаваны. Прымусова зачыняліся ўсе калегіі, маёмасць іх падлягала канфіскацыі, манахі-езуіты павінны былі пакінуць межы дзяржавы. Езуітаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў меркавалася выслаць за мяжу "прежде прочих". Справа адукацыі моладзі перадавалася ў рукі манахаў іншых ордэнаў.

У былых езуіцкіх мурах у Оршы была адчынена 4-класная дамініканская школа. "Кляштар, што застаўся пасля езуітаў, вельмі зручны для размяшчэння настаўнікаў і канвіктараў", --адзначалася ў акце візітацыі новай школы. Аднак і новыя ўладары знаходзіліся тут нядоўга: у 1829 годзе ўсе дамініканскія школы ў Оршы былі зачынены. З гэтага часу практычна і пачалося разбурэнне комплексу пабудоў былой езуіцкай калегіі.

Наступнае дзесяцігоддзе будынкі сталі безгаспадарчымі, пакуль не былі перададзены ў вайсковае ведамства. Меркавалася размясціць у іх палкавы штаб, аднак праект гэты застаўся толькі на паперы. Аднойчы веснавой ноччу 1842 года абрынулася каля 20 метраў мураванай сцяны, якой была абнесена тэрыторыя калегіі. Гэтая акалічнасць прыспешыла ўлады зрабіць выснову аб неабходнасці эксплуатацыі будынкаў, таму што яны, застаўшыся і надалей без нагляду, маглі "придти в совершенное расстройство". Было вырашана адчыніць тут новы гарадскі астрог, у які першыя арыштанты былі пераведзены ўжо ў жніўні 1842 года. У будынках былой калегіі, прыстасаваных для навучання, пачаліся паўсюдныя пераробкі, якія вымагала іх новае функцыянальнае прызначэнне. У 1848 годзе спецыяльным загадам імператара тут былі дадаткова размешчаны лазарэт для арыштантаў астрога і памяшканні для ніжніх чыноў мясцовай інваліднай каманды.

Больш за ўсё не пашчасціла былому езуіцкаму касцёлу імя Архангела Міхаіла. Першапачаткова яго хацелі перадаць праваслаўным, кансісторыя ўжо нават склала каштарыс на перабудову. Аднак пазней уладамі было прынята рашэнне прадаць храм на знос. З яго вынеслі начынне і абразы, знялі званы, пачалі разбіраць дах і сцены. К сярэдзіне XIX стагоддзя хрысціянскі храм рукамі хрысціян быў знішчаны поўнасцю.

Затое турэмны замак у будынках былой калегіі ўладкаваўся трывала, на цэлыя 150 гадоў. Уся далейшая гісторыя колішніх езуіцкіх муроў -- амаль суцэльны суплёт драматычных калізій чалавечых лёсаў, трагічных эпізодаў гісторыі грамадства. У 1863 годзе ў Аршанскім астрогу ўтрымліваліся "палітычныя злачынцы", якіх адтуль накіроўвалі адразу ў Сібір. Пазней тут знаходзіліся ўдзельнікі хваляванняў 1905 года, пакутавалі ахвяры сталінскага і гітлераўскага генацыдаў.

Сёння гісторыя Аршанскай калегіі мусіць атрымаць свой працяг. Будынкі былой турмы перададзены аддзелу культуры Аршанскага гарвыканкома, зроблены праект рэстаўрацыі помніка. Магчыма, праз колькі гадоў калегіі зноў будзе вернуты яе колішні шляхетны выгляд і сэнс установы, якая дбае перш за ўсё пра душу і розум чалавека.

Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ,

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма") .



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ
Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 6 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1361.
Падпісана да друку 26. 9. 1994 г.